НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 24 (813) 26 чэрвеня 2013

# Наша Ніва

www.nn.by

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Алекс Гальчанюк: Я хацеў гуляць толькі за ЗША

Я звычайны тынэйджар і жыву тынэйджарскім жыццём. Старонка 9.

## Чума і людзі



Чаму такая сакрэтнасць? Старонка 6.

# Праблемы беларускіх мільянераў



У Беларусі два тыпы мільянераў. Адны жывуць на мільён дзвесце тысяч заробку ў месяц (**старонка 7**)...

...Іншыя трацяць 1,5 мільёна даляраў на стрыжку поля для гольфа (**старонка 5**).

PHOTO.BYMEDIA.NET

### Цяпер падпісацца можна і праз банкаматы, і праз інтэрнэт-банкінг!

Падпіску можна аплаціць і з банкаўскай карткі, праз банкаматы, праз інтэрнэт-банкінг, плацежныя сістэмы. Шукайце «Нашу Ніву» ў раздзеле «СМІ». Гэта надта зручна, хутка, выгадна!

Больш інфармацыі знойдзеце на сайце NN.BY (у правым верхнім кутку).

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## На другое паўгоддзе яшчэ можна падпісацца! Падпішыцеся самі, падпішыце блізкіх!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю. Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Ад аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

### Частае пытанне: як запаўняць графу «рахунак на аплату»

Пры аплаце ў банку ці на пошце, **бывае, узнікаюць пытанні пра новую графу «рахунак на аплату», «счет на оплату».** Кажыце, каб яе проста прапускалі. Гэты нумар ствараецца толькі пры аплаце праз інтэрнэтныя плацежныя сістэмы, пры аплаце праз інтэрнэт-банкінг. Пры аплаце з пошты, банка, як звычайна, ён не патрэбны.




## Сцісла

### Папа выказаў сімпатыю тым, «хто пакутуе» ў Беларусі

21 чэрвеня Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці атрымаў аўдыенцыю ў папы Францішка. Папа папрасіў перадаць яго салідарнасць і вялікую сімпатыю да Беларусі, асабліва да тых, хто пакутуе, а таксама выказаў надзею на тое, што з дапамогай Святога Пасаду адносіны краіны з Захадам будуць паляпшацца шляхам павагі, дыялогу і ўзаемаразумення.

### Абурэнне словамі Святланы Алексіевіч

Журналістка нямецкай газеты Frankfurter Allgemeine Zeitung Керстын Гольм настойвае, што дакладна перадала выказванне пісьменніцы Святланы Алексіевіч аб беларускай мове. «Беларуская мова сялянская і літаратурна нявыспелая», — гаварылася ў інтэрв'ю.

Калі словы выклікалі абурэнне ў інтэрнэце, пісьменніца заявіла, што журналістка не так перадала яе думку. Аднак Гольм піша: «Цытаваная мною фармулёўка існуе даслоўна ў запісе інтэрв'ю. У размове гэта гучала адпаведна як «крестьянский» і «несозревший».

У інтэрв'ю нямецкай газеце Алексіевіч таксама назвала Лукашэнку «сапраўды блізкім да простых людзей».

### Міліцыя ўзгадніла месца пражывання Змітра Дашкевіча пасля вызвалення

«Званілі з Першамайскага РУУС і пыталіся ў таты, а пасля і ў мяне, ці не супраць мы, каб Зміцер Дашкевіч жыў у нас, — напісала ў сябе ў Фэйсбуку Наста Дашкевіч (Палажанка).— Фантастыка :). І так, канечне ж, папрасілі яго па вяртанні завітаць у РУУС. Фантастыка №2».

Гэта руцінная працэдура: узгадняецца згода сваякоў на пражыванне вязня пасля выхаду з турмы.Але ў выпадку Дашкевіча гэта дае надзею, што яго такі вызваляць. Многія баяліся, што тэрмін ягонага знаходжання ў турме ізноў будзе падоўжаны.

Так адбывалася ў Савецкім Саюзе з вязнямі, што «не сталі на шлях выпраўлення». У 2012 аналагічным чынам падоўжылі тэрмін зняволення Дашкевіча.

**СГ**

### Самае чытанае на nn.by за 19—25 чэрвеня

1. Віктар Лукашэнка гаворыць з моцным беларускім акцэнтам — відэа
2. Лукашэнка: «Старэйшы сын хоча стаць прэзідэнтам, гэта бліжэй да ісціны»
3. Жыхар Ліпецка, які назіраў за зносам будынка, зняў на відэа ўласную смерць
4. Клубнічныя войны на Палессі суправаджаюцца перастрэлкамі
5. Спёка ў Мінску — фотафакт
6. У суботу хакеры размясцілі ў апытанцы «Ці прагаласавалі б Вы за Віктара Лукашэнку» вірус, ён выдалены
7. Сілавікі Беларусі: ху ёсць ху
8. Фотасесія ў жанры «ню» на плошчы Леніна
9. «Усмірыцель Мінска» Яўсееў стаў генерал-маёрам міліцыі. Пяць фактаў + фота і відэа
10. У Рызе згарэў замак — рэзідэнцыя прэзідэнта Латвіі

# Ордэны і кавалеры Беларусі

Унікальны Мальцаў, **шматлікія ўзнагароды Філарэта**, Ордэн Скарыны для Зімоўскага.

На мінулым тыдні алігархі Юрый Чыж (уладальнік кампаніі «Трайпл») і Аляксандр Машэнскі (генеральны дырэктар «Санта Імпэкс Брэст») сталі кавалерамі Ордэна Айчыны III ступені. За якія заслугі бізнэсоўцы атрымалі гэтыя ўзнагароды, не паведамляецца. Мы паглядзелі, якія дзяржаўныя ордэны існуюць у Беларусі і хто іх атрымлівае.

## Ордэн вайсковай славы



За выключныя заслугі ў кіраванні войскамі, падтрыманні іх высокай баявой гатоўнасці і прафесійнай вывучкі. За адвагу і самаадданасць, праяўленыя пры абароне Айчыны і яе інтарэсаў.

У цэнтры ордэна размешчаная рэльефная выява двух ваяроў, якія ўвасабляюць сухапутныя і паветраныя сілы. Ордэн вайсковай славы вырабляецца са срэбра з пазалотай.

**Хто атрымліваў?**
**Толькі Мальцаў**

Адзіным чалавекам, хто атрымаў гэты ордэн, з'яўляецца былы міністр абароны, сённяшні дзяржаўны сакратар Рады Бяспекі Леанід Мальцаў.

## Ордэн Айчыны



Існуе I, II і III ступеняў. Ім узнагароджваюць за дасягненні ў вытворчасці, навукова-даследчай, сацыяльна-культурнай, грамадскай дабрачыннай дзейнасці. За мужнасць і адвагу, праяўленыя пры абароне Айчыны і яе інтарэсаў. За вялікія заслугі ў развіцці сувязяў паміж Беларуссю і іншымі краінамі.

Ордэн Айчыны I ступені вырабляецца са срэбра з пазалотай, II ступені — са срэбра з частковай пазалотай, III ступені — са срэбра. У цэнтры ордэна знаходзіцца выява дзяржаўнага герба, апраўленага вянком з дубовага і лаўровага лісця.

**Хто атрымліваў?**
**Шэйман і Шамякін**

За поспехі на Алімпіядах кавалерамі ордэна стала вялікая колькасць спартсменаў. Сярод іх тэнісістка Вікторыя Азаранка, вяслярка Кацярына Карстэн (адзіная, хто мае Ордэн I ступені), фрыстайліст Аляксей Грышын, біятланістка Дар'я Домрачава, стралок Сяргей Мартынаў, лёгкаатлетка Юлія Несцярэнка, малатабойца Іван Ціхан (злоўлены на ўжыванні допінгу) і многія іншыя.

З чыноўнікаў ордэн атрымалі спікер палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка, былы віцэ-прэм'ер Іван Бамбіза, старшыня Мінскага аблвыканкама Барыс Батура, былы пасол Беларусі ў Расіі Уладзімір Грыгор'еў, былы старшыня Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко, член ЦК КПСС Анатоль Малафееў, прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч, банкір Пятро Пракаповіч. Ордэн II ступені мае Віктар Шэйман, які загадвае кіраўніцтвам справамі прэзідэнта.

Узнагароджваўся Ордэнам Айчыны пісьменнік Іван Шамякін, маюць таксама старшыня афіцыйнага саюза пісьменнікаў Мікалай Чаргінец, балетмайстар Валянцін Елізар'еў, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.

З вучоных узнагароджаны канструктар МАЗа Міхаіл Высоцкі, фізік Віктар Буракоў, заолаг Леанід Сушчэня, інжынер Павел Шыпук.

## Ордэн Дружбы народаў



За значны ўклад у справу ўмацавання міру, дружалюбных адносін і супрацоўніцтва паміж дзяржавамі, кансалідацыі грамадства і адзінства народаў.

У цэнтры ордэна размешчаная накладная выява зямнога шара з пяцію кантынентамі, асобныя дэталі якога пакрытыя сіняй эмаллю. Зямны шар аблямаваны абадком з вывязай поціскаў рукі.

**Хто атрымліваў?**
**Уладзімір Пуцін і Уга Чавэс**

Ніводзін прадстаўнік краін Еўрасаюза гэтай узнагароды не атрымліваў. Затое яе маюць кіраўнікі сяброўскіх Лукашэнку краін Уладзімір Пуцін, Ільхам Аліеў, Уга Чавэс. Былы дырэктар знешняй разведкі Расіі Сяргей Лебедзеў, генсак АДКБ Мікалай Бардзюжа, патрыярхі РПЦ Аляксій II і Кірыл. Уладальнік «Ітэры» Ігар Сцяпанаў. Былы мэр Масквы Юрый Лужкоў. Ніводзін з замежных кавалераў гэтага ордэна не гаворыць па-беларуску.

## Ордэн «За службу Радзіме»





За ўзорнае выкананне вайсковага абавязку, за падтрыманне высокай баявой гатоўнасці войскаў, за адвагу і самаадданасць, за асаблівыя заслугі ва ўмацаванні дзяржаўнай бяспекі. Існуе I, II і III ступеняў.

У цэнтральнай частцы ордэна на вянку з дубовага лісця размешчана пазалочаная пяціканцовая зорачка, апраўленая паяском, у ніжняй частцы якога знаходзіцца пазалочаная лаўровая галіна, у верхняй частцы, пакрытай белай эмаллю, — надпіс «За службу Радзіме». Вырабляецца са срэбра.

**Хто атрымліваў?**
**Зноў Мальцаў і Усхопчык**

Ордэн I ступені таксама мае Леанід Мальцаў. Вельмі заслужаны чалавек, калі меркаваць па ўзнагародах. Хаця некалі ж Лукашэнка пазбаўляў яго працы з гнебнай фармулёўкай «за п'янства». Другім кавалерам з'яўляецца генерал Уладзімір Усхопчык, той самы, што камандаваў штурмам Віленскай тэлевежы, а пасля быў намеснікам міністра абароны ў Беларусі.

Ордэн II ступені маюць касманаўты Уладзімір Кавалёнак і Пятро Клімук, некалькі ўдзельнікаў Другой сусветнай (Глебаў, Барданаў, Гарбанёў, Дзюбко), цяперашні дэпутат, а некалі вайсковы камісар Брэстчыны Уладзімір Базанаў...

## Ордэн «За асабістую мужнасць»





Уручаецца за асабістую адвагу пры выкананні вайсковага абавязку, самаадданыя ўчынкі, здзейсненыя у экстрэмальных умовах, за мужнасць пры абароне мяжы, за смелыя дзеянні ў абставінах, звязаных з рызыкай для жыцця. У цэнтры ордэна размешчанае кола, пакрытае белай эмаллю, з надпісам «За асабістую мужнасць» і вывявай лаўровых галін. Вырабляецца са срэбра з пазалотай.

**Хто атрымліваў?**
**Кучынскі і Навумаў**

Першым кавалерам гэтага ордэна ў 1997 быў выратавальнік з Барысава Аляксандр Хоміч, які праявіў сябе падчас пажару на чыгунцы. Увогуле, ордэн «За асабістую мужнасць» атрымлівала вялікая колькасць людзей, якія адзначыліся не толькі ў аднадасці ўладзе. Напрыклад, 19-гадовы шараговец Сяргей Свяніцкі з каравула спецвагона, які ўступіў у бой з бандытамі і быў забіты, курсант Дзмітрый Гвішыяні, які стаў тушыць пажар у цягніку Брэст—Мінск. З моцнымі апёкамі ён быў дастаўлены ў вайсковы шпіталь, але ўратаваць яго не ўдалося.

Хоць атрымлівалі гэты ордэн і былы міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў, а таксама экс-памочнік Лукашэнкі па асаблівых даручэннях, дэпутат палаты прадстаўнікоў Віктар Кучынскі. Растлумачыць іх асабістую мужнасць цяжэй.

## Ордэн Пашаны



За дасягненні ў вытворчай, навукова-даследчай, дзяржаўнай, сацыяльна-культурнай, спартыўнай, грамадскай і іншай дзейнасці, за значныя поспехі ў медыцынскім абслугоўванні.

Ордэн Пашаны мае форму круглявага пазалочанага васьміканцовіка, на які накладваецца чатырохканцовая срэбраная зорка з рэльефнай вывявай мужчыны і жанчыны ў цэнтры, якія трымаюць дзяржаўны сцяг і сноп пшаніцы. Вырабляецца са срэбра з пазалотай.

**Хто атрымліваў?**
**Макей і Трашчанок**

Сярод кавалераў зноў шмат прадстаўнікоў Расіі — ужо нябожчыкі Аркадзь Вольскі і Рэм Вяхіраў, канструктар Міхаіл Калашнікаў, дыпламат Тыгран Караханаз, сакратар Рады Бяспекі Расіі Мікалай Патрушаў.

З беларусаў варта адзначыць міністра замежных справаў Уладзіміра Макея і ягонага папярэдніка Сяргея Мартынава, Філарэта, Мікалая Чаргінца, спартсменаў Карстэн і Астапчук (таксама злоўленая на ўжыванні допінгу), гісторыка Якава Трашчанка.

## Ордэн Францішка Скарыны





Адзіная найвышэйшая ўзнагарода, названая імем славутага земляка (яшчэ быў заснаваны ордэн Кастуся Каліноўскага, але так нікому і не ўручаўся). Узнагароджваюць ім за асаблівыя поспехі ў галіне нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, за даследаванні гісторыі Беларусі, мовы, літаратуры.

У цэнтры кола рэльефная выява Францішка Скарыны, у ніжняй частцы — лаўровая галіна. Авал апраўлены бела-блакітнай эмалевай стужкай з надпісам «Францыск Георгій Скарына». Вырабляецца са срэбра з пазалотай.

**Хто атрымліваў?**
**Баскаў і Зімоўскі**

Першым гэты ордэн атрымаў у 1997 мастак Міхаіл Савіцкі, другім — балетмайстр Валянцін Елізар'еў. Сярод першых кавалераў быў акадэмік Аляксандр Вайтовіч, які пасля перайшоў у апазіцыю і нават паспрабаваў удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах. Першымі замежнікамі, хто атрымаў ордэн Скарыны, былі брытанцы Віктар Міці і Лінда Уокер, а таксама ірландзец Эдзі Роўч, якія дапамагалі чарнобыльскім дзецям. З расейцаў першым узнагароду атрымаў патрыярх Аляксій II. Мае ўзнагароду і Філарэт (у дадатак да ордэнаў ён яшчэ і Герой Беларусі).

Пачынаючы ад 2006 года, Лукашэнка актыўна ўручае ордэн Скарыны прадстаўнікам расійскай папсы — Мікалаю Баскаву, Надзеі Бабкінай, Юрыю Антонаву, што дэвальвавала значэнне гэтай узнагароды.

У апошнія гады з беларусаў ордэн Скарыны атрымлівалі гродзенскі гісторык Валерый Чарапіца, літаратуразнаўцы Уладзімір Гніламёдаў і Адам Мальдзіс, старшыня БТ Аляксандр Зімоўскі, мастак Май Данцыг.

Затое пісьменнік Васіль Быкаў так і не атрымаў ніводнага дзяржаўнага ордэна.

## Ордэн Маці



Узнагароджваюцца жанчыны, якія нарадзілі і выхавалі пяцярых або больш дзяцей.

У цэнтры ордэна рэльефная выява жанчыны і дзіцяці ў промнях сонца, з вянком з дубовых і лаўровых лісцяў. Вырабляецца з тампака (від латуні) з пазалотай.

**Хто атрымліваў? Самы масавы**

Гэтую ўзнагароду атрымалі больш за 7 тысяч беларускіх жанчын. Сумнявацца ў справядлівасці ўручэння не даводзіцца.

Матэрыял падрыхтаваў Зміцер Панкавец

# «Усмірыцель Мінска» стаў генерал-маёрам міліцыі

Пяць фактаў пра **Ігара Яўсеева.**

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб наданні палкоўніку міліцыі Ігару Яўсееву чарговага звання — генерал-маёра. «Наша Ніва» прапануе ўзгадаць некаторыя моманты з біяграфіі 45-гадовага генерала.

### Не першы генерал з Росі

Нарадзіўся ў мястэчку Рось Ваўкавыскага раёна. Гэта не першы генерал з тых мясцін. У Росі таксама нарадзіўся брыгадны генерал Войска Польскага Рамуальд Валынцэвіч.

У мястэчку ёсць вытворчасць будаўнічых матэрыялаў. Бацька Яўсеева, дарэчы, і быў будаўніком, а маці — настаўніцай. Хаця сам міліцыянт прызнаваўся, што гадавалі яго бабуля з дзядулем. «Быў распешчаным і слаба падрыхтаваным да жыцця», — так ацэньваў Яўсееў перыяд дзяцінства.

Пасля васьмі класаў пайшоў вучыцца ў Пружанскі сельгастэхнікум. Казаў, што ў той час быў вельмі грамадска актыўным. У прыватнасці, займаўся музеем Вялікай Айчыннай вайны. Пісаў лісты і асабіста сустракаўся з многімі ўдзельнікамі той вайны.

### Спецназ ГРУ і ахова Лукашэнкі

У войска Яўсееў трапіў у элітную трэцюю брыгаду спецназа ГРУ ВПС (Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Вайскова-паветраных сілаў), якая дыслакавалася ў ГДР. Развал СССР заспеў участковым у Пружанскім РУУСе. Працаваў у ахове Лукашэнкі. Затым займаў розныя пасады ў УУС Мінскага райвыканкама.

### Усмірыцель Плошчаў

Але імя Яўсеева на слыху стала пасля таго, як ён заняў пасаду начальніка міліцыі грамадскай бяспекі Мінгарвыканкама. У непасрэдныя абавязкі Яўсеева ўваходзіла сачэнне за масавымі акцыямі і іх уціхамірванне (найчасцей шляхам разгону). Не цураўся і сам прымаць удзел у збіцці. Напрыклад, усім добра памятаецца, як ад Яўсеева ў першыя дні пасля Плошчы пацярпеў фатограф Уладзь Грыдзін. Яўсееў быў адным з галоўных дзеючых персанажаў падчас самой Плошчы. Чым скончыліся падзеі 19 снежня, няма нагоды лішні раз нагадваць. Пасля іх Яўсееў трапіў у спісы неўязных на тэрыторыю Еўрасаюза пад нумарам 84. А вось Лукашэнка за Плошчу даслаў Яўсееву падзячны ліст.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Яўсееў у эпіцэнтры падзей. Маўклівая акцыя 20 чэрвеня 2011.**

### «Хлопаць можна толькі ветэранам»

Пасля Яўсееў быў відным дзеячам у час «Стоп — бензіну» і маўклівых акцый пратэсту. Каардынаваў і камандаваў разгонамі менавіта ён. Выкарыстоўваючы і нецэнзурную лексіку (захавалася відэа; на Акрэсціна яго ніхто за гэта не пасадзіў). Перад маўклівай акцыяй на Дзень Рэспублікі Яўсееў адзначыў, што апладзіраваць можна толькі ветэранам. Разгон каля Чыгуначнага вакзала на 3 ліпеня быў адным з найбольш брутальных пасля Плошчы.

### «Міліцыянер — гэта лад жыцця»

Апошнім часам Яўсееў не турбуе жыхароў сталіцы. Яго прызначылі кіраўніком Віцебскай абласной міліцыі. Яшчэ яго выбралі старшынёй Віцебскай абласной федэрацыі хакея. Дарэчы, замяніў таксама міліцыянта — Найдзенку. На людзях Яўсееў з'яўляўся ў форме, поўнай медалёў. Кажа, што вельмі падабаюцца віцебскія вуліцы, бо на іх няма мітусні.

У прыватным жыцці Яўсееў жанаты, мае траіх дзяцей. Кажуць, што фотаздымак сям'і стаіць у яго на працоўным месцы. Лічыць, што «міліцыянер — гэта лад жыцця».

**Зміцер Панкавец**

# З Макея знялі санкцыі ЕС

…каб ён мог узяць удзел у **саміце Усходняга партнёрства.**

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей выключаны са спісу асоб, якім забаронены ўезд на тэрыторыю ЕС. Такое рашэнне прынята 24 чэрвеня на пасяджэнні Рады міністраў замежных спраў ЕС у Люксембургу.

Уладзімір Макей быў унесены ў спіс асобаў, якім забаронены ўезд у ЕС у студзені 2011 года. Гэта была ацэнка ягонай ролі як кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта ў падзеях пасля прэзідэнцкіх «выбараў» 2010 года, якія скончыліся масавымі арыштамі і пагромам апазіцыі.

Макея доўгі час лічылі лідарам памяркоўнага крыла лукашэнкаўцаў. Пры гэтым ён ніколі не дыстанцыяваўся публічна ад рэпрэсій супраць іншадумцаў.

**МБ**



**Па запрашэнні Уладзіміра Макея (справа) 21—22 чэрвеня акрэдытаваныя ў краіне дыпламаты з жонкамі наведалі Гродзенскую вобласць.**

# Эмір Катара перадаў уладу сыну

Шэйх Хамад бін Халіфа аль-Тані **адрокся ад трона** на карысць свайго сына шэйха Таміма бін Хамада аль-Тані.





Эмір заявіў, што прыйшоў час перадаць уладу наступнаму пакаленню. Хамад сказаў, што ніколі не прагнуў улады дзеля самой улады і заўсёды кіраваўся выключна інтарэсамі дзяржавы. Паводле яго слоў, цяпер інтарэсы эмірата патрабуюць «адкрыць новую старонку ў яго гісторыі». Па словах эміра, ён лічыць свайго сына здольным справіцца з такой адказнасцю і годным даверу, адзначае «Аль-Джазіра». 61-гадовы Хамад захапіў уладу ў 1995 годзе, калі яго бацька быў з візітам у Швейцарыі. Былы эмір дзевяць гадоў пражыў на выгнанні ў Францыі і толькі ў 2004 вярнуўся на радзіму

Таміму бін Хамаду аль-Тані ўсяго 33 гады. На дадзены момант ён самы малады манарх у свеце. Ён вучыўся ў Вялікабрытаніі. Узначальваў у Катары Алімпійскі камітэт.

Катар — невялікая краіна на арабскім паўвостраве. На поўдні мяжуе з Саудаўскай Аравіяй, з усіх іншых бакоў абмываецца водамі Персідскай затокі. Гэтая краіна адна з найбагацейшых. Малы Катар займае трэцяе месца ў свеце па запасах прыроднага газу. ВУП краіны на душу насельніцтва самы высокі менавіта ў Катары — 93 тысячы даляраў.

Нярэдка былога катарскага эміра называлі галоўным спонсарам «арабскай вясны» — рэвалюцый у Тунісе, Егіпце, Лівіі, паўстання ў Сірыі. Увогуле Катар лічыцца апорай заходняга свету ў арабскім рэгіёне. З Дохі вяшчае сусветнавядомы канал «Аль-Джазіра».

Тым не менш, кіраўніцтва Катара мае даволі шчыльныя адносіны з беларускім. У Мінску бывалі як былы, гэтак і цяперашні эміры Катара.

**ЗП**



# На помнік Галіне Сямдзянавай не хапае грошай

Аб'яўлены **збор сродкаў.**

Галіна Сямдзянава — адна з лідараў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 склікання, юрыст і знаўца выбарчага заканадаўства і практыкі. Памерла 18 верасня 2011 года. Дагэтуль на яе магіле няма помніка. Скульптар, сябра суполкі «Пагоня» Алесь Шатэрнік ужо вырабіў гарэльеф. На выраб і ўсталяванне помніка пакуль бракуе сродкаў. У звароце, распаўсюджаным у інтэрнэце, гаворыцца: «Мы просім тых, хто ведаў і шанаваў Галіну Георгіеўну, у тым ліку дэпутатаў Вярхоўных Саветаў 12 і 13 склікання, праваабарончыя арганізацыі, удзельнікаў выбарчага назірання, спрычыніцца да гэтай справы сваімі складкамі. Дзякуй тым, хто ўжо ахвяраваў».

Каардынуе збор сродкаў Валянціна Свяцкая. Кантактны тэлефон (029) 610-69-18, электронны адрас: valentina_svyats@mail.ru

Пералічыць грошы можна і праз сістэму PayPal з пазнакай «Tombstone for Halina Siamdzianava».

# Гульня ананімных мільянераў

**Пад Мінскам пры падтрымцы Прэзідэнцкага спартыўнага клуба запрацавалі палі для гольфа.**

Першы мінскі гольф-клуб у складзе квартала «Грынвіч» — незвычайнае ўтварэнне на ўсходзе сталіцы, у якое патрапіць выпадковаму мінаку немагчыма. Вакол будоўлі стаіць высокая агароджа, расстаўленыя некалькі кантрольна-прапускных пунктаў, на якіх ахоўнікі з сабакамі перапісваюць нумары аўто. Заехаць можна толькі тым, хто ўнесены ў дазволены спіс.

На мінулым тыдні ў гольф-клубе адбыўся першы турнір, праўда, закрыты для гледачоў. Аднак напярэдадні спаборніцтваў на спартыўнае поле пусцілі прэсу, каб паказаць якасць падрыхтоўкі травы. «Наша Ніва» скарысталася сітуацыяй, каб наведаць «Грынвіч» і пабачыць пасёлак на свае вочы.

### Чые грошы?

У праект ужо ўкладзена $18 мільёнаў, і гэта толькі пачатак, тлумачыць дырэктар «Гольф-клуба» Андрэй Ніканёнак. «Летась накупілі тэхнікі на $200 тысяч, сёлета патрацілі яшчэ каля $600 тысяч...» — расказвае ён. Размах адчуваецца. Праз некалькі месяцаў плануецца адкрыццё гольф-акадэміі, пасля з'явіцца і клубны дом.

Па падліках, штогод толькі на ўтрыманне поля давядзецца траціць каля $1,5 мільёна.

Архітэктар быў замоўлены з Англіі, ды і персанал, які абслугоўвае палі, запрасілі з-за мяжы. Хоць патроху гадуюць і айчынных спецыялістаў.

**У праекце круцяцца грошы ўкраінскага мільянера »**

Для краіны, у якой у гольф гуляе некалькі дзясяткаў чалавек, інвестыцыі выглядаюць дзіўнымі. Аднак уласнікі перакананыя: праект акупіцца.

Фармальна «Гольф-клуб» лічыцца расійска-беларускім таварыствам з абмежаванай адказнасцю. Аднак, па словах Ніканёнка, у праекце круцяцца грошы ўкраінскага мільянера Мікалая Лагуна. У Беларусі ён валодае «Дэльта-банкам» і страхавымі кампаніямі.

Партнёр «Гольф-клуба» — Прэзідэнцкі спартыўны клуб на чале з Дзмітрыем Лукашэнкам. «Мы ўдзячныя ім за дапамогу», — кажа Андрэй Ніканёнак. «Толькі арганізацыйную ці фінансавую?» — удакладняем у яго. Гэтая інфармацыя не каментуецца.

Падыход да справы сур'ёзны. Ніканёнак паказвае на верталёты, якія пралятаюць высока ў небе: тут часам праводзяцца выпрабавальныя палёты, але шум будзе замінаць гальфістам сканцэнтравацца на гульні. Таму вядуцца перамовы аб спыненні палётаў.

### Сарваныя тэрміны

Раней на месцы гольф-клуба быў палігон, вакол якога — лясы. Зямля за некалькі кіламетраў ад МКАД звышдарагая.

Аднак інвестар атрымаў яе без аўкцыёну, наўпрост прэзідэнцкім указам. Дакумент быў падпісаны яшчэ ў студзені 2007 і даваў наваствораному таварыству прывабныя льготы. Вызначаць падрадчыкаў можна было адвольна, без правядзення таргоў, а мясцовым уладам настойліва раілася выдзеліць падатковы крэдыт на будаўніцтва гольф-поля. Некалькі пунктаў указа былі схаваныя «для службовага карыстання».

Побач, згодна з прэзідэнцкімі ўказамі, мусілі будавацца гіганцкія жылыя комплексы «Зялёны Бор» і «Натынгем» мільянераў Юрыя Чыжа і Анатоля Тарнаўскага адпаведна.

Усе аб'екты «Грынвіча» — і жылыя, і спартыўныя — мусілі быць канчаткова здадзеныя ў эксплуатацыю да канца 2014.



Тыповы ідылістычны пейзаж мінскага гольф-клуба.



Дырэктар «Гольф-клуба» Андрэй Ніканёнак.

Аднак дабудаваных і заселеных катэджаў на тэрыторыі пасёлка яшчэ няма. Большасць участкаў выглядае як поле ці высечаны лес з закапанай таблічкай «прадаецца». Каму? За колькі? Камерцыйная таямніца.

Па словах ахоўнікаў, у адзінкавых дамах вонкавыя будаўнічыя працы насамрэч падыходзяць да завяршэння — усталёўваюцца вокны і дзверы, аднак гэта хутчэй выключэнне з сітуацыі. «Прыязджайце праз гадоў дзесяць, можа, тады ўсё і дабудуюць», — смяецца ахоўнік. Праўда, кіраўніцтва глядзіць на сітуацыю больш аптымістычна.

Прыстойнай дарогі да «Грынвіча» пакуль няма. Некалькі кіламетраў ад МКАД да пасёлка даводзіцца трэсціся па гравійцы. Пад'езд пабудуюць хіба што налета.

### Чэмпіянат ананімных мільянераў

Феномен беларускага гольфа заключаецца ў тым, што айчынныя спартсмены саромеюцца прызнавацца, што яны ўдзельнічалі ў спаборніцтвах. Летась беларусы праводзілі неафіцыйны чэмпіянат пад Вільняй — мінскае поле тады было яшчэ непадрыхтаванае. У чэмпіянаце гулялі каля 20 чалавек, але ў выніковым пратаколе было запісана толькі дзевяць прозвішчаў. Усе астатнія зрабілі выгляд, што іх не было... Для спорту, нават аматарскага, гэта нонсэнс.

Чым тлумачыцца такая сітуацыя? Намесніца дырэктара «Гольф-клуба» Святлана Максімава лічыць, што вінаваты стэрэатып: гальфіст — значыцца, багацей. «Беларусы не хочуць, каб іх запісалі ў спіс мільянераў... Альбо, напрыклад, хтосьці з гульцоў мусіў быць на працы, а паехаў на турнір», — мяркуе яна.

Дарэчы, у апублікаваным спісе пераможцаў мінскага турніру пераважна замежнікі. Беларусаў толькі двое, і гэта далёка не самыя вядомыя асобы. Але не сакрэт, што сярод аматараў гульні ёсць дзеці ўплывовых чыноўнікаў ды бізнесмены.

### Гольф для пачаткоўцаў

Для беларуса з сярэднім заробкам цэны на гульню ў гольф кусаюцца, але не выглядаюць гіганцкімі. Групавыя ўрокі для навічкоў у мінскім гольф-клубе каштуюць $40—50, індывідуальныя заняткі з трэнерам яшчэ даражэйшыя. Сама арэнда маленькага поля каштуе да $30, вялікага — да $70. Але да гэтых сум трэба дадаць кошт вопраткі і абутку (абы ў якім на поле не пусцяць), інвентару (а ў Беларусі клюшкі пакуль не купіш), мячыкаў... Па словах Андрэя Ніканёнка, каб пачаць гуляць, трэба патраціць каля $600—700. Гэта больш за месячны заробак у краіне.

Ягор Марціновіч,
фота аўтара



Першыя дамы «Грынвіча» будуюцца зусім побач з палямі.

# Мільярдэр Прохараў ездзіць на «Ё-Мабілі» з Калодзішчаў

**Прамысловая вытворчасць запланаваная на 2015 год.**

Расійскі мільярдэр і палітык Міхаіл Прохараў прыехаў на «Ё-Мабілі» на эканамічны форум у Санкт-Пецярбургу. Машына сабраная ў інжынірынгавым цэнтры ў Калодзішчах пад Мінскам. Кіравалі працэсам зборкі беларусы. Галоўным канструктарам «Ё-Мабіля» стаў Андрэй Гінзбург.

Аўтамабіль унікальны тым, што выкарыстоўвае для руху электраэнергію. Яго таксама можна запраўляць як бензінам, так і газам.

У канструкцыі выкарыстоўваецца электрычная трансмісія з камбінаваным сілкаваннем ад генератара, які круціцца газа-бензінавым рухавіком унутранага згарання, і ад ёмістага назапашвальніка энергіі.

Прамысловая вытворчасць «Ё-мабіля» ў Расіі запланавана на пачатак 2015 года.

СяЦ



Мяркуецца, што цана «Ё-Мабіля» складзе да $15 тыс.

## Сцісла

### Прадпрымальнікаў паслухалі

Тэрмін уваходжання ў дзеянне тэхрэгламенту Мытнага саюза «Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці» для прадпрымальнікаў перанесены на год — да 1 ліпеня 2014. Прадаўцы адзення папярэджвалі, што пачнуць страйк, калі дакумент запрацуе сёлета. Пасля ўвядзення рэгламенту іх тавар мусіў бы маркавацца спецыяльным знакам.

### На Салігоршчыне зарабляюць $821

Паводле падлікаў Белстата, у красавіку 2013 сярэдні заробак у Салігорскім раёне дасягнуў $821. Гэта найбольшая лічба па краіне. Найменш зарабляюць на Браслаўшчыне — $354. У Мінску ж падлічылі заробак за май 2013 — выйшла $727.

### Гарэлка падаражэе

Белдзяржхарчпрам прапануе, каб мінімальная цана, па якой прадпрыемствы змогуць прадаваць гарэлку гандлёвым сеткам, павялічылася на чвэрць — з 21 500 да 27 000 рублёў за паўлітра.

ЯМ

# У Беларусі афрыканская чума свінняў

**Небяспекі для чалавека** яна не ўяўляе.

Пра наяўнасць афрыканскай чумы на Гродзеншчыне стала вядома праз сайт Рассельнагляду, менавіта там была размешчана абвестка, што ў Расію часова забаронены ўвоз свініны з Беларусі.

Толькі тады на сайце беларускага Дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду з'явілася наступная нататка: «21 чэрвеня Беларускім дзяржаўным ветэрынарным цэнтрам у паталагічным матэрыяле, атрыманым ад трупа свінні, які належыць жыхару вёскі Чапунь Іўеўскага раёна, выяўлены генетычны матэрыял ўзбуджальніка афрыканскай чумы свіней».

**18000 за кілаграм**

Дзяржава кампенсуе людзям страты ад канфіскацыі свіней — 18000 рублёў за кілаграм у жывой вазе.

На наступны дзень увоз беларускай свініны, а таксама прадукцыі і сыравіны з іх, забараніла Украіна.

Міністр сельскай гаспадаркі Леанід Заяц заявіў, што прычынай распаўсюду чумы стаў замежны камбікорм, які рэалізаваўся прадпрымальнікам на Гродзеншчыне. Праўда, пасля міністр вылучыў больш праўдападобную версію пераносу інфекцыі дзікамі. Гродненская вобласць закрыта для рэалізацыі свініны.

Афрыканская чума свіней смяротна небяспечная для жывёлаў, аднак для чалавека небяспекі не ўяўляе. Вірус захоўваецца ў сырым мясе да 188 дзён.

Клінічная карціна хваробы выглядае наступным чынам: пры вострым цячэнні тэмпература цела павышаецца да 42 градусаў. Жывёла не бярэ корм, ляжыць. На скуры відаць чырвона-фіялетавыя плямы, якія не знікаюць пры націсканні пальцам.

Для прафілактыкі ветэрынары раяць трымаць свіней у хлявах без свабоднага выгулу. Ветслужба раіць дэзінфекаваць хлявы хлорнай вапнай, 2-працэнтным растворам каўстычнай соды ці іншымі сродкамі. Пры ўваходзе ў памяшканне пакласці тканіну, змочаную ў хлёрцы. Карміць трэба толькі вараным, бо таксіны не вытрымліваюць тэмпературы Трэба апрацоўваць памяшканне і жывёлаў ад насякомых-крывасмокаў і грызуноў.

**Штаб барацьбы з чумой узначаліў Русы**

Для прыняцця аператыўных рашэнняў і каардынацыі сітуацыі па барацьбе з чумой свіней створаны рэспубліканскі штаб на чале з віцэ-прэм'ерам Міхаілам Русым.

Санслужба клянецца, што мяса хворых свіней на прылаўкі не трапіць.

**Юрась Ускоў**





# Чума і людзі

**Дохлыя кабаны плаваюць** у сажалцы каля свінакомплекса СПК «Пяршайскі».

На звалцы ляжыць гурба напаўпрысыпаных трупаў. Фатаграфіі гэтага разгільдзяйства жыхар Валожына Георгій Каржанеўскі зрабіў 3 чэрвеня ля свінакомплекса СПК «Пяршайскі» (Валожынскі раён). Арыгіналы здымкаў мы маем у Рэдакцыі.

Каржанеўскі некалькі разоў хадзіў да старшыні райвыканкама Навумовіча. Па словах Каржанеўскага, той сказаў, што «разбяруцца без яго».

Ясна, што і вароны, і сабакі лятуць, бягуць на падлу, пасля разносяць інфекцыі на сабе. Паводле нормаў трупы здохлых жывёл трэба адразу спальваць. Можа, у «Пяршайскім» не хапае рабочых рук? А можа саляры пашкадавалі? Ці гэта звычайная халатнасць? Ці такі мор быў, што не паспявалі паліць? Невядома. У свінакомплексе выпадак не каментуюць. Сакрэтны аб'ект проста-такі!



производится с ... 
очагов особо опасных болезней животных.
Изъятые животные и продукты животного происхождения подлежат уничтожению и утилизации в соответствии с ветеринарно-санитарными правилами сбора, утилизации и уничтожения биологических отходов.
Акт является основанием для возмещения ущерба, понесенного гражданами и юридическими лицами в результате изъятия животных.
Акт составлен в 3 экземплярах.
1-й экземпляр вручен владельцу изъятых животных и продуктов животного происхождения;
2-й экземпляр направлен в исполнительный орган государственной власти субъекта Республики Беларусь;
3-й экземпляр направлен в территориальный орган государственной ветеринарной службы Республики Беларусь Государственное учреждение
(наименование субъекта(ов)
«Воложинская районная ветеринарная станция»
Республики Беларусь)

Подписи членов специальной комиссии: (подпись) (И.О.Фамилия)

Ну як вы хочаце, каб паморку не было? Ды пры такім падыходзе і на людзі чума паявіцца, не толькі што на свінні.

Беларускія ўлады не абвяшчалі факту эпізаотыі, пакуль Расія не заявіла: у Беларусі, у Іўеўскім раёне, хвароба. Але пры гэтым ужо ў сярэдзіне месяца ў суседнім з Іўеўскім Валожынскім раёне прафілактычна знішчалі пагалоўе. Афіцыйнай версіяй было: «Што за хвароба і як яна распаўсюджваецца, ветэрынарная служба яшчэ не вызначыла».

Так, 17 чэрвеня работнікі санслужбы прыехалі ў вёску Чартавічы. Па акце вымання людзям вернуць грошы: 23 тысячы рублёў за кілаграм жывой вагі. Хлявы гаспадароў прадэзінфікавалі. Трымаць парсючка вяскоўцам забаронена будзе яшчэ год.

**У людзей канфіскавалі і знішчылі свіней таксама якнайменш у трох вёсках Віцебскага раёна — Ліпаўцах, Шапечыне і Асінаўцы.**

«21 чэрвеня ў паталагічным матэрыяле, атрыманым ад трупа свінні, які належыць жыхару вёскі Чапунь Іўеўскага раёна, Гродзенскай вобласці, выяўлены генетычны матэрыял узбуджальніка афрыканскай чумы свіней (АЧС). Праводзіцца комплекс мерапрыемстваў па ліквідацыі ачага і недапушчэнні распаўсюджвання захворвання», — гаворыцца ў паведамленні Мінсельгасхарча.

Паніка перакінулася на вёскі Сакаўшчына, Сівіца. І ў самім Валожыне людзі сталі масава біць кабаноў, скупілі соль, каб захоўваць мяса ў спёку, бо маразільнікі ёсць не ва ўсіх.

Георгій Каржанеўскі жыве ў прыватнай хаце ў Валожыне, трымае трох парсючкоў. Спадзяецца, што ягоны двор пошасць міне, хоча да восені датрымаць. «Я замок купіў другі, каб у хлеў не ўлезлі «ахоўнікі парадку», — кажа мужчына на пытанне, ці не шкада яму будзе аддаць сваіх цыняў на спаленне.

Калі чалавек бачыць, які беспарадак і падман творыцца ў саміх ахоўнікаў парадку, дык ці будзе ён ім верыць?

**Аксана Рудовіч, Валожын — Мінск.**
**Фота Георгія Каржанеўскага**

# Як пражыць за мільён дзвесце ў месяц?

**$42 мільярды**

Першы віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка паведаміў, што на праграму развіцця сельскай гаспадаркі ў 2005—2010 патрачана, у пераліку, 42 мільярды даляраў, хоць першапачаткова планавалася 35 мільярдаў.

$42 мільярды — гэта шмат? Так, за такія грошы можна купіць для сельскай гаспадаркі прыблізна 1,6 мільёна трактароў «Беларус-1221». Для параўнання, сёлета для правядзення вясенне-палявых работ у краіне мелася 45,8 тысячы трактароў. А гадавы бюджэт Беларусі на 2013 роўны 14,3 мільярда даляраў. Вялікія грошы гахнулі, а сяло не стала багатым.

Столькі **зарабілі за май** даяркі ў фірме «Агравіта» Брэсцкага раёна.

Інтэрнэт узрушыла відэа з аграгарадка Знаменка. Карову падымаюць каўшом пагрузчыка і з вышыні скідаюць у кузаў грузавіка. Ды — чуваць на запісе — яшчэ і высказляюцца з беднай рагулі.

Гэтыя відэакадры былі апублікаваныя на сайце нашай газеты. Канечне, яны выклікалі ўсеагульнае абурэнне. Ужо на наступны дзень пасля публікацыі ў гаспадарку прыехала праверка са сталіцы, з дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.

Правяралі абыходжанне з каровамі. А трэ' было б разабрацца з адносінамі між людзьмі.

З сельгаспрадпрыемства «Мяднянская птушкафабрыка» да нас у газету спачатку звярнуліся даяркі. І толькі потым выплыла відэа пра кароваў.

## Аб'ядналіся — і расчараваліся

Першы канфлікт узнік восенню. Тады Мяднянскую птушкафабрыку ў Брэсцкім раёне аб'ядналі з гаспадаркай «Агравіта». Прызначылі новага дырэктара. Былую кіраўніцу Таццяну Лешык даяркі з фермы ў аграгарадку Знаменка ўспамінаюць добрым словам. Тады былі заробкі. А цяпер — слёзы.

Калі мы размаўлялі з даяркамі першы раз, у пачатку месяца, яны чакалі заробак 1,5 мільёна. У сапраўднасці аказалася яшчэ менш. «За май выплацілі каму 1,2 мільёна, каму — 1,3. На прозвішчы ад А да Д — выдалі, астатнім пакуль не. І не выдалі разліковых лісткоў, таму не ведаем нават, за што так мала», — расказалі на ферме.

Першы раз прыцягнуць увагу да праблем сваёй фермы жанчыны паспрабавалі ў лістападзе. Напісалі ліст у абласную газету «Заря». Што каровы часта стаяць галодныя, іх не лечаць — і яны перастаюць даваць малако. А менш малака — меншыя заробкі.

Дырэктар Уладзімір Дземенціюк тады спісаў усё на саміх работнікаў, якія, на яго думку, кепска працуюць.

Прайшло сем месяцаў, а праблемы засталіся.

Даяркі цяпер звярнуліся ўжо ў Мінск, у «Нашу Ніву».



У Мінску на выставе «Белагра-2013» цуда-каровы з бантамі і падбеленымі капытамі. А на многіх рэальных фермах — гразь і азвярэнне.

СЯРГЕЙ ЗІНН

## Помсціць?

«Расцэнак на малако мы не ведаем. Мы не ведаем, за што нам грошы налічваюць. Дырэктар і размаўляць з намі не хоча. Па дамове заробкі павінны выплачваць 19-га чысла, а мы атрымліваем са спазненнем, бывае толькі 30—31-га. Мы камуналку не можам аплаціць своечасова», — проста плачуць жанчыны.

Сапраўды, пражыць за паўтара мільёна, а тым больш мільён дзвесце, пры сённяшніх цэнах цяжка.

У газету часам звяртаюцца гарлапаны, дэмагогі, якія хацелі б усё і адразу. Жанчыны са Знаменкі робяць іншае ўражанне. Яны не просяць «дайце грошай», яны просяць, каб была магчымасць нармальна рабіць і зарабляць. За неатрыманай капейкай яны бачаць безгаспадарлівасць кіраўніцтва.





Заробкі невысокія, бо малако ферма здае не найлепшай якасці. Чаму? «Халадзільнікі не працуюць, а грошай адрамантаваць няма. Таму малако пракісае. А вінавацяць нас. Мы па 20 дзён цялят выпойвалі, але ў разліковых лістках гэтага няма. Нам кажуць, што ўсё ўключана ў тарыф. Але мы спраўджвалі: так быць не можа. Выходзіць, што нам за гэта зусім не плацяць. Альбо мы камбікорм грузім. Па 90 кг на трактар грузім! І гэта таксама не аплачваецца».

На ферме — разруха, па словах жанчын. А новы дырэктар не можа, не ўмее вырашыць праблемы.

«Сіласныя ямы неўкамплектаваныя: кароў кармілі гніллём. Камбікорму на ферме зусім няма: праз даўгі ён не закупляецца. А ведаеце, якія каровы худыя без камбікорму! Трава на полі перарасла — амаль па шыю, — казалі работніцы журналісту на пачатку чэрвеня.—Каровы такую есці не будуць. Здаралася нават, што на кароўніку цялятаў раніцай пакормяць, а наступны раз толькі праз суткі...»

Па словах даярак, пасля іх пісьма ў газету «Заря» і звароту ў райвыканкам у мінулым годзе дырэктар пры начальстве паабяцаў усё вырашыць. Але пасля толькі заробкі «зрэзаў». «Помсціць нам так, ці што? — не разумеюць жанчыны. — Нам кажуць, каб яшчэ кожны месяц бралі на 10—20 працэнтаў ад заробку прадукцыяй птушкафабрыкі. Але навошта нам тыя сінія куры?»

## «Нагаворваюць»

Дыкрэтар Мяднянскай птушкафабрыкі Уладзімір Дземенціюк адмаўляе ўсе абвінавачванні: «У нас халадзільнікі на полі. Дояць кароў, і малако паступае адразу ў халадзільнікі. А пасля ўжо яго збіраюць і вязуць на ферму.

Цяпер каровы кормяцца на пашы. І мы падкошваем на ноч частку травы. А раніцай, калі ідзе дойка, падкошваюць другую частку пашы. І так у шахматным парадку пастаянна». Запэўнівае дырэктар, што не можа быць, каб не было і кармоў: «І сілас, і сянаж леташнія яшчэ засталіся».

Ды назваў няпраўдай «зразанне» заробкаў даярак. «Некаторыя выпівалі, то мы іх вызвалілі, — так Дземенціюк тлумачыць нагаворы на гаспадарку. — Ёсць зрывы — ідэальнага нічога не бывае».

## ТБ прыехала, ТБ паехала

Мы выставілі на сайце газеты відэа, як карову ў Знаменцы з пагрузчыка, цераз высокі борт кідаюць у кузаў.

Дырэкцыя прадпрыемства прызнала такі факт. Адбыўся ён 14 лістапада 2012. Тлумачэнне: у каровы была парваная звязка, і яе такім чынам вырашылі перавезці.

А пасля міністэрскай праверкі звольнілі загадчыцу фермы. Людзі ў Знаменцы кажуць, што гэта для адчэпкі: трэ' было знайсці крайняга. Усё адно яна была ўжо на пенсіі.

Сітуацыю ж з заробкамі гэта не вырашыць, бо непасрэдна дырэктар іх вызначаў і будзе вызначаць, не загадчыца фермы.

Дырэктар Дземенціюк доўгі час працаваў у суседніх Страдзічах у гаспадарцы «За мір» пры моцным гаспадарніку Астапчуку. Пасля ён паматаўся па розных гаспадарках раёна. Нарэшце трапіў у Медна.

Мы пагаварылі з рознымі жыхарамі Знаменкі-Дурычаў — маладзейшымі і старэйшымі, ветэранамі. «Дурыцькі люды», па-старому кажучы, Дземенціюка ацэньваюць невысока. «Шэ не вспів оглянутыся, а вжэ начав выганяты, — кажуць пра яго. — Од тэі пэрэміны стало нэ ліпш, а гірш!» Работнікі лічаць, што старшыня Брэсцкага райвыканкама «ідзе ў Дземенціюка на паваду», а таму «парадку не будзе».

Малако кепска ідзе, бо няма корму. Абвінавацілі даярак і пастухоў. «А ў каровы малако на языку. Раз няма корму, няма і малака», — кажуць людзі.

Замкнёнае кола калгаснай гаспадаркі: кармоў няма, бо аграфірмы не маюць грошай. Не маюць грошай, бо эфектыўнасць работы нізкая. А эфектыўнасць працы нізкая, бо за паўтара мільёна сам ногі працягнеш.

Магчыма, трэба мяняць старыя кадры ў кіраўніцтве на маладыя. Але ці ёсць такія маладыя?

У кожным разе, ненармальна, каб людзі працавалі за такія ўбогія заробкі, ненармальна!

**Сяргей Макарэвіч**

## Афіцыйна

**«Меры прымаюцца...»**

Мы патэлефанавалі намесніку старшыні Брэсцкага райвыканкама Віктару Лукашэвічу. Ён з'яўляецца і начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання. «Меры прымаюцца. Ферму і гаспадарку трымаем на кантролі. Праблемы ёсць, асабліва гэтым летам. Але так, каб невырашальныя, няма. І калі вы размаўлялі з дырэктарам, значыцца, ён сказаў праўду».

Лукашэвіч дадаў, што ненармальна праз сем месяцаў выкладаць відэа ў інтэрнэт і паказваць, як кепска працуе кіраўніцтва. «Але ж дырэктар не можа за кожным бегаць. А грузілі і здымалі тыя ж людзі, што там працуюць. Гэта шкодніцтва».

**Колькі зарабляюць даяркі па краіне?**

| Гаспадарка | Адукацыя/разрад | Заробак |
|---|---|---|
| СВК «Гальшанскі», в. Доргішкі, Ашмянскі р-н | Без адукацыі | 1.500.000 |
| Саўгас «Юбілейны», в. Канцарава, Мёрскі р-н | Агульная сярэдняя | 3.000.000 |
| ААТ «Мікалаеўскі», в. Мікалаева, Мёрскі р-н | Без адукацыі | 2.500.000 |
| СВК «Жарабковічы», в. Жарабковічы, Ляхавіцкі р-н | Агульная сярэдняя, дояр 6 разраду | 3.500.000 |
| Дзяржпрадпрыемства «АграСітцы», в. Сітцы, Докшыцкі р-н | Без адукацыі | 2.000.000 |
| СВК імя Кляцкова, г. Ашмяны | Агульная сярэдняя | 1.900.000 |
| Філіял «Макранскі» ААТ «Кансерва-гароднінасушыльны завод», г. Быхаў | Агульная сярэдняя | 2.500.000 |
| КСУП «Каплічы», в. Каплічы, Калінкавіцкі р-н | Агульная сярэдняя | 2.000.000 |
| ААТ «Лань-Нясвіж», в. Лань, Нясвіжскі р-н | Прафесійна-тэхнічная, дояр 2 разраду | 3.500.000 |
| ААТ «Райаграсэрвіс», г. Докшыцы | Без адукацыі | 5.000.000 |

На сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны размешчаны агульнарэспубліканскі банк вакансій. Якія ж заробкі прапануюцца?

# Прафесар Хадыка сустрэў 75-годдзе ў сына ў Амерыцы

Адзін з заснавальнікаў БНФ **выехаў у ЗША**.


З унучкай Барбарай.

«Не назаўсёды, — папярэдзіла магчымае пытанне пра эміграцыю яго жонка Валянціна. — Паехаў глядзець унукаў».

У Дэнвер (штат Каларада) два гады таму пераехаў іх малодшы сын Кастусь. Затым да яго перабралася і сям'я — жонка і трое дзяцей. Хлопчыку 2 гады, дзяўчаткам 5 і 8. А дзеда запрасілі пабыць нянькай з меншымі.

Выехаў Юрый Хадыка 20 красавіка, а 23 чэрвеня яму споўнілася 75 гадоў. «На мінулым тыдні ў Мінск з Дэнвера прыязджаў сябра Кастуся. І я перадала з ім віншавальную паслыку. Уклала і букецік валошак. Вядома ж, засохнуць, але ўсё-ткі кветачка Радзімы», — расказала спадарыня Валянціна. У яе таксама была амерыканская віза, але не скарысталася.

Яна кажа, што сыну было цяжка ўладкавацца на працу ў Беларусі: усё праз прозвішча. Таму і вылецеў за акіян. Працуе кіроўцам: возіць пілотаў з аэрапорта ў гатэль.

Валянціна Хадыка дадала, што за дзень да ад'езду мужа яны пераехалі ў іншую кватэру — меншую. У старой было шмат кніг, якія не маглі забраць з сабой. І 2000 кніжак перахалі ў адну з калоній Беларусі.

**Сяргей Макарэвіч**


Мітрапаліт Філарэт выступіў за адмену смяротнага пакарання

«Мы, хрысціяне, не можам апраўдваць смяротнае пакаранне, бо гэта грэх забойства... Жыццё любога чалавека належыць яго Творцу, Богу. Не мы, грэшныя людзі, даравалі быццё чалавеку, не нам і пазбаўляць чалавека існавання. Бо за жыццё кожнага з нас Гасподзь Ісус Хрыстос аддаў сваё жыццё, зведаўшы пакуты, знявагі, здзекі і смерць на Крыжы... Дзяржава, караючы сваіх грамадзян смерцю, кожны раз нанова распінае Хрыста», — напісаў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт да ўдзельнікаў круглага стала «Рэлігія і смяротнае пакаранне», што прайшоў у Мінску.

**МБ**

# БАТЭ дзе? У Карагандзе

Чэмпіён Беларусі ў другім кваліфікацыйным раўндзе Лігі чэмпіёнаў сустрэнецца з **казахскім «Шахцёрам»**.

Каманда з Караганды двойчы выйгравала чэмпіянат Казахстана па футболе (2011, 2012). Клуб ніводнага разу не пакідаў вышэйшы казахскі дывізіён.

За савецкім часам карагандзінскі «Шахцёр» гуляў у першай і другой лігах першынства СССР. Наймацнейшым клубам Казахстана ў той час быў «Кайрат» з Алма-Аты.

Цікава, што сустракаўся «Шахцёр» у еўракубках і з беларускім клубам. У 2006 годзе ў Кубку Інтэртота карагандзінцы дужаліся з МТЗ-РІПА. У гасцях мінчукі былі мацнейшымі з лікам 5:1, а вось дома нечакана саступілі — 1:3.

На гэтым беларускія акцэнты ў «Шахцёры» не сканчаюцца. За чэмпіёна Казахстана выступаюць два беларускія футбалісты — брамнік Фамічоў і нападаючы Зяньковіч (нядаўна перайшоў, найлепшы бамбардзір чэмпіянату Казахстана).

У гэтым чэмпіянаце «Шахцёр» пакуль што ідзе на трэцім месцы, саступаючы «Актобэ» і «Астане».

Матчы пройдуць 16—17 (у Барысаве) і 22—23 ліпеня (у Казахстане).

**Зміцер Панкавец**

**«Дынама» згуляе ў Літве**

Таксама прайшло лёсаванне першых раўндаў Лігі Еўропы. Мінскае «Дынама» на стартавым этапе згуляе з літоўскай «Круояй» з 5-тысячнага Пакруоіса.


**Камертон Сяргея Ваганава**

# Кара

Час ад часу некаторыя чытачы папракаюць мяне тым, што, закранаючы з'явы сучаснасці, згадваю тыя ці іншыя выпадкі з дзяцінства. Маўляў, якое яны маюць дачыненне да сёняшніх людзей, падзей і праблем?!

Яно, вядома, так. Але і не так.

Калі, напрыклад, ад 26 чэрвеня 2013 года адгарнуць, бы ў кнізе, 60 старонак-гадоў, абавязкова натрапім на арышт Берыі. І я абавязкова ўспомню, што партрэт Берыі вісеў у «жывым кутку»...

Не, паважаны чытач, што хочаш рабі са мной, але і праз 60 гадоў, нібыта ўчора, я памятаю зарасні бузіны над рэчкай Пціч, цяністы дубовый гай, што называўся «калоннай залай», сыпучы на ўзгорку акопчык, дзе ў вільготным пяску знайшоў алавяную лыжку і спражку ад салдацкага рэменя, руіны касцёла з невядома адкуль заляцелымі бярозкамі, што ўчэпіста нараслі ў расколінах сценаў з разбітай рудой цэглы... І, вядома, барабанны дробат... «труба зовет»... «по долинам и по взгорьям»... марш, марш... уздым сцяга роснай ранічай, вячэрнія вогнішчы, выкладзеныя пяціканцовымі зоркамі, і штодзённыя — фізкультпрывітанне! — піраміды, што будаваліся з нашых лядашчых даўгатрусых целаў...

І раптам Берыя, ангельскі шпіён!

Дык вось, партрэт Берыі ў маршальскім мундзіры вісеў у «жывым кутку». Дакладней, «жывы куток» мы зладзілі ў тым закутку атраднага барака, дзе вісеў партрэт Берыі. Астатнія правадыры віселі паблізу, а Берыя якраз над клеткамі, дзе жылі вожык, чарапаха, два вужы, вавёрка і некалькі трусоў. Мы кармілі іх, даглядалі за імі. А вось да сарачанят Саша, наш важаты, студэнт-біёлаг, не падпускаў.

З гэтымі сарачанятамі адбылася цэлая гісторыя. Ладзячы нашы вайскова-індзейска-тарзанавыя гульні, мы гнулі лукі з дубовых галінаў, вастрылі стрэлы, увенчвалі іх кулямі, што здабывалі з патронаў, балазе такога дабра ў лесе і навокал было навалам. Нават цяжка ўявіць сёння, як высока ляцелі тыя стрэлы...

Аднойчы, спаборнічаючы, мы забілі сароку. Прынеслі да Сашы — глядзі, якія трапныя. Ён узяў сароку, агледзеў і, не сказаўшы ані слова, пайшоў у лес.

## А партрэт Берыі вісеў у «жывым кутку» »

Саша кульгаў. Дакладней, цягнуў нагу. Мы ведалі, што хлопчыкам ён ваяваў у партызанскім атрадзе, быў паранены. Яму цяжка было ўзлазіць на высачэзную бярозу, дзе пасярод галля чарнела сарочынае гняздо. Але ён не пусціў анікога з нас, нават самага спрытнага — узлез на дрэва сам і асцярожна зняў гняздо, у якім бездапаможна папісквалі птушаняты. Таксама беражна прынёс да сябе ў каморку і нікога з нас да птушанят не падпускаў. Сам выходжваў сарачанят, даглядаў за імі, а потым, калі падраслі, выпусціў на волю...

Сёння мне зразумелы патаемны сэнс ягонай кары. Бо калі б мы самі выходжвалі птушанят, дык і віну сваю быццам бы загладзілі і як бы заслужылі дараванне... Не, занадта простым было б тое загладжванне віны. І нават не сёння, а тады ж, не ведаю, праз каторае, шостае ці дзясятае, пачуццё ўвайшло ў нас разуменне таго, што грэх забойства загладзіць ніякім чынам немагчыма. Ніякім. І ніколі.

...А партрэт Берыі вісеў у «жывым кутку». Божа, як кідалася вавёрка ў сваёй клетцы, палахліва туліліся адзін да аднаго трусы, калі мы, падсаджваючы самых даўжэзных, намагаліся сцягнуць яго са сцяны. А потым, ламаючы запалкі, выпальвалі яму вочы праз ненавіснае пенснэ, што нават на партрэце бліскала халодным шклом... Смерць! Смерць шпіёну!..

І зноўку Саша спыніў экзекуцыю, жорстка дзіцячы самасуд. Адабраў знявечаны партрэт і пацягнуў, кульгаючы, на гаспадарчы двор у цёмны, зарослы дзядоўнікам, падплотны кут, куды звальваліся разнастайныя адходы піянерскага энтузіязму: зламаныя сталы, падраныя мячы, ржавеючыя бездапаможнымі спружынамі ложкавыя сеткі...

Што? Шкадаваць шпіёна?! Мы рынуліся за ім, ён абярнуўся:

— Хлопцы, — сказаў спакойна, — вавёрка галодная...

Не, не жадаў ён, каб мы, пазбаўляючыся страху, спалілі сябе нянавісцю. Бо нам наканавана было жыць і жыць. Можа быць, вечна.

Бо калі хто і мяркуе жыць вечна, дык гэта толькі дзеці і правадыры...

* * *

Дык ці мае дачыненне да сённяшняга жыцця ўспамін пра Сашу, Берыю ды сароку?

Па афіцыйнай версіі, Берыя быў расстраляны 23 снежня таго ж 1953 года. Адразу пасля хуткага, некалькі гадзінаў, квазісуда генерал-палкоўнік Баціцкі па ўласным, гавораць, жаданні стрэліў яму ў лоб...

Рознае гавораць.

Адное толькі хавалася і хаваецца дасюль у тагачасным смуродзе злачынных крамлёўскіх гульбішчаў: кара, да якой прыгаварылі Берыю паплечнікі па крывавых справах, мэтай сваёй мела ўвесці людзей, грамадства, народ і нават чалавецтва ў зман ілюзіяй таго, што Зло нібыта пакарана. Ад чаго і карнікі нібыта загладзілі віну за ўдзел у забойствах мільёнаў і заслугоўваюць даравання.

Але за гэтай ілюзіяй канчаткова хавалася адно: пазбегнуць трыбунала над сталінізмам. Назаўсёды.

Ці мо ёсць сумненні, што пачвара жыве?

*kamerton_41@mail.ru*

# Алекс Гальчанюк: Я хацеў гуляць толькі за ЗША

**Адзін з найлепшых** маладых хакеістаў свету адказаў на пытанні «Нашай Нівы».

19-гадовы Алекс Гальчанюк прымусіў гаварыць пра сябе з захапленнем падчас моладзевага чэмпіянату свету, дзе зборная ЗША стала чэмпіёнам. Потым ён правёў роўны дэбютны сезон у НХЛ. А на завяршэнне заваяваў з дарослай зборнай «зорна-паласатых» «бронзу» на сусветным першынстве ў Швецыі. Усяго за сезон Алекс правёў больш за сотню гульняў.

Летні адпачынак малады форвард праводзіць у Беларусі, на радзіме бацькоў. Шмат разоў пераносілі месца сустрэчы, бо хакеіст не мог дабрацца з лецішча ў Гарадзішчы да сталіцы.



Я звычайны тынэйджар і жыву тынэйджарскім жыццём »

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Пазналі ў фітнэс-клубе

**«Наша Ніва»: У Мінску без аўтамабіля?**

**Алекс Гальчанюк:** Я прыязджаю ў Беларусь усяго на пару тыдняў, таму асаблівай патрэбы ў машыне не маю. У ЗША і Канадзе клопату болей, таму там без аўтамабіля ніяк.

**«НН»: Увага да Вас павышаная пасля чэмпіянату свету?**

**АГ:** Шчыра кажучы, то не сказаў бы. У Манрэалі, натуральна, увагі многа. Але так было і да чэмпіянату свету.

**«НН»: А ў Мінску?**

**АГ:** Я тут асабліва нідзе не з'яўляюся. Быў у фітнэс-клубе, дык там пазналі. Сфоткаліся са мной. Не так, як у Манрэалі. У Канадзе цяжка прайсці па вуліцы — адразу пазнаюць.

### Калі чапляць, то ўсё

**«НН»: На чэмпіянат свету адразу згадзіліся ляцець? Усё ж сезон быў нялёгкім. Столькі гульняў правялі як на дарослым, так і на моладзевым узроўні.**

**АГ:** Канечне, раздумваў. Раіўся з агентамі, бацькамі. Сезон складаным быў — «Сарнія», моладзевы чэмпіянат свету, «Манрэаль». Доўга думаў. Я ж люблю гуляць за зборную, калі гатовы паказваць 100-працэнтны вынік. А гуляць напаўсілы — гэта не па мне. Але вырашыў, што ў гэтым годзе, калі чапляць, то ўсё.

**«НН»: На сусветным першынстве атрымалася згуляць на поўную сілу?**

**АГ:** Усё ж форма была далёкая ад той, што ў Кубку Стэнлі. Былі б такія ногі, як у плэй-офе, то, можа, паказаў бы лепшы вынік. Я тым не менш рады турніру. Усё было крышачку іншым (супернікі, пляцоўка, стыль гульні, матывацыя), але я прывык.

**«НН»: Закінуць пераможную шайбу Расіі было прыемна?**

**АГ:** Цікава было гуляць супраць Расіі. Я ж жыў там... Я ўжо гуляў супраць Расіі на моладзевым чэмпіянаце. Ведаў, што не трэба шмат «перадумваць», «перанастройваць» сябе, як гуляць супраць Расіі. Трэба проста гуляць. Калі я прыехаў у зборную, то ўбачыў, што там сабралася вельмі класная група хлопцаў. Не лічу, што мой прыезд у зборную быў вырашальным.

**«НН»: У матчы за трэцяе месца два вашы буліты былі ўсё ж вырашальнымі. Дзе іх навучыліся так выконваць?**

**АГ:** Не ведаю. З татам вельмі часта на трэніроўках адпрацоўваў. Ён заўсёды казаў, што буліт — гэта той кампанент, які можа вырашыць лёс гульні. У патрэбны момант так і атрымалася. Людзі кажуць, маўляў, маладому даверылі біць буліты. Я так не думаю. Я проста хацеў вырашыць лёс гульні.

### У сацсетках не брыдкаслоўлю

**«НН»: Сезонам у «Манрэалі» задаволеныя?**

**АГ:** Канечне. Хаця і не ведаў, чаго чакаць. Я ўсё ж самы малады хакеіст, які правёў цэлы сезон у НХЛ. Набраў 27 пунктаў у 48 гульнях. Мог і лепш згуляць, але мог і нашмат горш.

Я не вельмі звяртаю ўвагу на прэсу, на працягу ўсяго года стараюся не чытаць СМІ.

**«НН»: Прэсу не чытаеце. Затое ў сацыяльных сетках шчыруеце.**

**АГ:** Раней быў нашмат больш актыўным. Адказваю часам фанатам. Але часта бывае, што задаюць адны і тыя ж пытанні, не будзеш жа на іх увесь час адказваць.

**«НН»: Напрыклад.**

**АГ:** Пішуць у міжсезонне: «Не можам дачакацца гульняў». Альбо пытаюцца, як праходзіць лета, як адчуваю сябе падчас сезона, калі выйграем Кубак Стэнлі. На ўсе пытанні проста фізічна немагчыма адказаць.

**«НН»: Калі, напрыклад, у Фэйсбуку напішаце нейкае матнае слова, Вас за гэта ў «Манрэалі» пакараюць?**

**АГ:** Асабіста я не напішу. Ведаю, што некаторыя пішуць. У нас у камандзе я такіх выпадкаў не памятаю. Проста шмат дзяцей сочаць за табой, хочуць быць падобнымі да цябе. Нельга дапускаць такіх вольнасцей. Канечне, ёсць моманты, што хочацца напісаць мат, але стрымліваешся, бо людзі не вінаватыя, што ў цябе кепскі настрой.

### Я — амерыканец

**«НН»: Пытанне, якое ў Беларусі абмяркоўваецца. Хто Вы па нацыянальнасці? Амерыканец, беларус, расеец?**

**АГ:** Я — амерыканец. Я нарадзіўся ў ЗША. Гэтае пытанне крыху надакучыла. Калі б я лічыў сябе неамерыканцам, то гуляў бы за іншую зборную. Але ніколі не вагаўся.

**«НН»: Здаецца, Вам прапаноўвалі гуляць за Расію. У Вас быў расійскі пашпарт?**

**АГ:** Не. Многа інфармацыі, але ўсё гэта няпраўда. Расійскага пашпарта ў мяне не было.

**«НН»: Вы гулялі за магілёўскае «Хімвалакно». Што гэта з сябе ўяўляла?**

**АГ:** Можа, пару гульняў зачапіў. Тады там гуляў мой тата. Я прыязджаў, калі не было матчаў за маскоўскае «Дынама», каб падтрымаць форму, пагледзець, як гуляе бацька. У Беларусі і Расіі моладзь праводзіць не надта шмат гульняў, а тата хацеў, каб я гуляў больш, таму і прыязджаў у Магілёў.

**«НН»: У Мінску па-ранейшаму ніхто з хакейных людзей, з федэрацыі на Вас не выходзіць?**

**АГ:** Не. Многія пытаюцца: «А чаму ты не гуляеш за Беларусь?» Дык мне ніхто не прапаноўваў ніколі. Як бы смешна гэта ні гучала. Хаця я б адмовіўся, бо заўсёды марыў гуляць толькі за Амерыку. Нецікавы я, мабыць, у Беларусі.

**«НН»: Амерыканскі хакеіст беларускага паходжання, так напісана ў Вікіпедыі, слушна?**

**АГ:** Мне без розніцы.

### Ніколі не называў сябе рускім

**«НН»: У расійскіх СМІ можна знайсці словы, дзе Вы называеце сябе «рускім».**

**АГ:** Ніколі не казаў такога. Можа, напісалі, каб людзям было цікавей прачытаць. Я сабе галаву такімі рэчамі не забіваю.

**«НН»: У Канадзе ёсць з кім гаварыць па-руску?**

**АГ:** З бацькамі — так. Хаця з кожным годам усё цяжэй падбіраць словы. Асабліва даваць інтэрв'ю.

**Усяму, што маю, абавязаны тату »**

**«НН»: На беларускай мове што-небудзь ведаеце?**

**АГ:** Не. Хіба што «Асцярожна, дзверы зачыняюцца».

**«НН»: Вы шмат гулялі як у Еўропе, гэтак і ў Амерыцы. Да якой школы сябе адносіце?**

**АГ:** Азы хакея атрымліваў ад таты. Вядома, шмат чаго ўзяў ад рускай школы, але не менш і ад амерыканскай. Я ўсё найлепшае сабраў у сабе.

**«НН»: Тата для Вас — асноўны аўтарытэт?**

**АГ:** Канечне. Так было на працягу многіх гадоў, так застаецца і цяпер. Я давяраю той падрыхтоўцы, якую ён мне дае. Усім, чаго я дабіўся, я абавязаны тату.

### Хаджу ў праваслаўную царкву

**«НН»: У Мінску дзядулю неяк дапамагаеце на лецішчы? Траву косіце?**

**АГ:** Адны дзядуля з бабуляй у мяне жывуць на лецішчы пад Мінскам, а іншыя — на праспекце Пераможцаў. Начую на лецішчы, там прабежкі раблю, лазня. Удзень еду ў Мінск на фітнэс, абедаю ў бацькоў мамы. У сваякоў усё нармальна, дапамагаць ім асабліва няма патрэбы.

**«НН»: А як праводзіце свабодны час падчас сезона?**

**АГ:** У гэтым годзе яго амаль не было. Максімум два дні адпачынку атрымлівалі. У Манрэалі, канечне, шмат цудоўных рэстаранаў, іншых месцаў. Усё што заўгодна. Бывае, канечне, завісаю ў інтэрнэце. Я не скажу, што, як робат, раблю заўсёды адно і тое ж. Гляджу адны і тыя ж серыялы ці чытаю адны кнігі. Як ідзе, гэтак ідзе. Я звычайны тынэйджар і жыву тынэйджарскім жыццём. Яшчэ люблю хіп-хоп.

**«НН»: Ваша сястра раней выступала за зборную Беларусі па фігурным катанні. Чым яна цяпер займаецца?**

**АГ:** Працуе ў Манрэалі. Жыла са мной, бо мне не дазволілі жыць аднаму, як маладому гульцу. Дапамагала са знаходжаннем кватэры, бо ў мяне проста часу не было на такія бытавыя рэчы. З фігурным катаннем ужо завязала.

**«НН»: Адпачывалі сёлета ў Маямі. Па Еўропе не хацелі праехацца?**

**АГ:** На чэмпіянаце свету праехаўся. Стакгольм паглядзеў, быў час. Класны горад.

**«НН»: У Вас на руцэ фенечка з абразкамі. Вы вернік?**

**АГ:** Так, хаджу ў Манрэалі ў праваслаўную царкву.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Алекс Гальчанюк**

Нарадзіўся ў 1994 у Мілуокі (ЗША) у сям'і беларускага хакеіста Алекса Гальчанюка. На моладзевым узроўні гуляў за каманду «Сарнія Стынг» (Канада). Цяпер гулец «Манрэаль Канадыянс» (самы тытулаваны клуб НХЛ). Чэмпіён свету сярод моладзі (2013). Бронзавы прызёр дарослага чэмпіянату свету (2013).

# Дзеля забавы мінчук расстраляў трох чалавек на прыпынку

22 чэрвеня, гадавіна пачатку вайны, ясны дзень. Ля аўтобуснага прыпынку прытармажвае чорны «Форд-Эскорт». Апускаецца задняе шкло, і з салона... гучаць стрэлы. А пасля аўто рванула на чырвонае святло на выезд з горада.

Гэтая гісторыя нагадвае фільмы пра сіцыліянскую мафію, але здарылася ў мінулую суботу каля станцыі метро «Партызанская» ў Мінску.

16-гадовага падлетка параніла ў грудзі, 29-гадовую дзяўчыну — у шчаку. Найгорш дасталося мазырчанцы — металічны шарык трапіў ёй у галаву. Каб яго дастаць, давялося звяртацца да хірурга. Шарык трапіў пад скуру, але не пашкодзіў костак. 23-гадовая дзяўчына прыехала ў Мінск у камандзіроўку. Зараз некалькі дзён давядзецца правесці ў бальніцы. Уяўляеце шок яе блізкіх: «Мама, ты толькі не турбуйся. Куля папала мне ў галаву, але я жывая!»

Аўто з хуліганамі знайшлі ў ноч з 22 на 23 чэрвеня ў Мінску. Іх затрымаў спецназ.

Аказалася, што ў «Фордзе» ехалі дзяўчына і тры хлопцы. У аднаго з іх пры вобшуку на кватэры і знайшлі пнеўматычны пісталет. Сябры ўладальніка зброі адразу ж пачалі даваць паказанні.

Страляў 29-гадовы балбес, прычыну такога ўчынку следчыя не называюць, пакуль не праведзены ўсе экспертызы. Вядома, што ён быў раней судзімы. Цяпер ён знаходзіцца ў ізалятары. Мінімальна, што яму свеціць — тры гады «хіміі», а калі па ўсёй строгасці — да 10 гадоў калоніі.

На жаль, для Беларусі гэта не адзінкавыя здарэнні. Сёлета зафіксавана некалькі выпадкаў, калі з пнеўматыкі без дай прычыны стралялі на вуліцах. У лютым у цэнтры сталіцы п'яны прадпрымальнік чапляўся да мінакоў на аўтобусным прыпынку. Калі яму зрабілі заўвагу, дастаў пнеўматычны пісталет і стрэліў у хлопца. Праўда, не трапіў. А праз некалькі дзён ужо ў Баранавічах двое п'янтосаў вырашылі праверыць, як далёка страляе іх пісталет. Але не знайшлі лепшага месца за аўтобусны прыпынак. Тры стрэлы — і два пашкоджаныя акны ў аўтобусах.

Пнеўматыка ў Беларусі мае асаблівы статус. Калі дульная энергія не большая за 7,5 Дж, яна не падлягае рэгістрацыі і купіць яе можна без дазволу. А вось яе выкарыстанне абмежавана. У населеных пунктах насіць пнеўматыку публічна забаронена, страляць можна толькі ў цірах і на стрэльбішчах. Пнеўматычная зброя, дарэчы, не адносіцца да сродкаў самаабароны.

**Кастусь Матушыч**



Візуальна адрозніць пнеўматычны пісталет ад баявога амаль немагчыма.

**Следчыя шукаюць**

відавочцаў здарэння на Партызанскім праспекце. Яны просяць тых, хто валодае нейкай інфармацыяй, тэлефанаваць на: (017) 340-02-02, (017) 395-50-31.

# Пайшлі на працу і не вярнуліся



П'яны кіроўца пакінуў дзве сям'і **без гаспадароў.**

Сталі вядомыя падрабязнасці аварыі ў Баранавічах 10 чэрвеня.

«У крыві кіроўцы выяўлена 3,2 праміле алкаголю пры дапушчальнай норме 0,3, — расказала начальніца Баранавіцкага міжраённага аддзела Следчага камітэта Іна Семянюк. — 3,2 праміле — гэта або бутэлька гарэлкі, або трохі менш — у залежнасці ад камплекцыі чалавека, яго здароўя і іншых паказчыкаў».

У дзесяць разоў (!) перавышана норма. У такім стане не варта за парог выходзіць, не тое што за руль сядаць.

33-гадовы кіроўца «Опеля-Зафіры» ўрэзаўся ў пагрузчык на дарозе Кобрын—Стоўбцы, у межах Баранавічаў. Ад удару легкавік падкінула ўверх і выкінула на дарожных рабочых, што вялі рамонт. Двое загінулі: 26-гадовы—на месцы, старэйшы памёр у бальніцы. У бальніцу трапілі і абодва кіроўцы.

ДАІшнікі не адразу змаглі патлумачыць прычыну аварыі. Па іх словах, знакі аб рамонце дарогі былі выстаўленыя, хуткасць таксама была ва ўсіх у норме. Яны не заўважылі, што кіроўца «Опеля» быў на добрым падпітку. Відаць, смерць яго ўраз працверазіла.

**Паводле Intex-press**

## Сцісла

### Пенсіянераў пацягнула палятаць

Паблізу вёскі Брускаўшчына з вышыні 50 метраў зваліўся мотапланер. Гаспадар-пенсіянер даваў прыватны ўрок пілатавання такому ж пенсіянеру, але штосьці не сышлося. З траўмамі рознай ступені абодва шпіталізаваныя. Гэта быў аднаматорны мотапланер Vivat L13-SW, 1987 года выпуску.

### У Магілёве затрымалі суддзю з грашыма

Намеснік старшыні суда Кастрычніцкага раёна Магілёва Магамед Умараў арыштаваны па падазрэнні ў атрыманні хабару. Яго затрымалі супрацоўнікі КДБ пры перадачы 2700 даляраў ад адваката Анатоля Гоманава. Следчыя правяраюць, ці не была гэта плата за вынясенне станоўчага рашэння па крымінальнай справе ў адносінах да падабароннай Гоманава і мінімізацыі магчымага пакарання. Абодва знаходзяцца пад вартай.

### Што ў галаву стукнула?

Зэкаў, якія збеглі з Ваўкавыскай калоніі №11, затрымалі ў Шчучынскім раёне. Яны былі асуджаны за няцяжкія злачынствы — крадзяжы, і адбываць пакаранне ім заставалася толькі год-два. Таму дзіўныя іх уцёкі: прычыну ж такога ўчынку не называюць. Цяпер ім могуць накінуць яшчэ ад двух да сямі гадоў турмы.

### Міліцыянты, а што нарабілі

Тры супрацоўнікі Крычаўскага РАУСа праходзяць па крымінальнай справе аб перавышэнні паўнамоцтваў. Іх вінавацяць у збіцці жыхара горада ў снежні 2012. Пацярпелага падазравалі ў крадзяжах і падчас затрымання збілі так, што давялося шпіталізаваць. Адзін з міліцыянтаў арыштаваны.

### Паднялі руку на храм Багародзіцы

Трое кобрынцаў абрабавалі мясцовы храм Святой Багародзіцы. З акна падсобкі выбілі фанерыну і скралі 500 тысяч рублёў і 35 ювелірных вырабаў, ахвяраваных прыхаджанамі. У той жа дзень іх і затрымалі. Растраціць нарабаванае яны так і не паспелі.

### Наварыла мама кашы...

Маці паклала трохгадовага сына і двухгадовую дачку спаць. Думала, што паклала. А сама пайшла з найменшым малым у хату праз дарогу — старым бацькам кашу наварыць. Праз паўгадзіны вяртаецца—а на падворку дым. Дзяцей паспелі вынесці з агню, але толькі хлопчык ачуняў: дзяўчынка ўчадзела. Здарэнне адбылося ў вёсцы Дзімамеркі Лоеўскага раёна. Гэта на самым паўднёвым усходзе Беларусі, на мяжы з Украінай. Відаць, дзеці палезлі гуляцца з запалкамі.

### Застаўся без носа

Сварка паміж двума гамельчукамі скончылася бойкай. У п'яным чадзе адзін з іх прыгадаў «подзвіг» зоркі бокса Майка Тайсана, але крыху прамахнуўся. Не дацягнуўшыся да вуха, адкусіў хлопцу кончык носа. Са знявечаным тварам ён звярнуўся ў міліцыю.

### Махляры рассылаюць ілжэ-смс

Трымальнікі плацежных картак пачалі атрымліваць смс-паведамленні ад імя «Беларусбанка». У іх гаворыцца, што карткі заблакаваныя, і трымальнікаў просяць патэлефанаваць на пэўны нумар. Банк адмаўляе сваю датычнасць да такіх паведамленняў, а іх рассылку звязвае з махлярствам. І просіць тэлефанаваць толькі ў кантакт-цэнтр па нумары 147.

**КМ**

## Вышук



**24-гадовы мінчук падазраецца ў махлярстве.** Пасля непрацяглага знаёмства ён пераехаў жыць да дзяўчыны. Праз нейкі час яна заўважыла, што знікла частка яе зберажэнняў. А пасля сужыцель знік. Разам з ім і ювелірныя ўпрыгожванні. А на адным сайце ён размясціў абвестку, што прадае мабільнік. Узяў перадаплату ў чалавека дый знік. Следчыя не выключаюць, што эпізодаў махлярства было больш. Хто пацярпеў ад чалавека на фота, тэлефануйце ў Першамайскае РУУС Мінска: (017) 280-02-02, (017) 285-74-12.



**Балаву Святлану Міхайлаўну расшукваюць па падазрэнні ў махлярстве.** Жанчына праз інтэрнэт прадавала адзежу і дзіцячыя цацкі. Тавар абяцала выслаць пасля пералічэння грошай на электронны кашалёк. Але, атрымаўшы грошы, нічога не высылала. Хто пацярпеў ад Балавай альбо ведае яе знаходжанне, тэлефануйце ў Партызанскае РУУС Мінска на: (017) 230-34-34, (029) 883-23-96.



**Кацярыну Шышкову расшуквае Заводскае РУУС Мінска.** Яна 23 сакавіка не вярнулася дамоў. Магчыма, Шышкова магла займацца прастытуцыяй на трасе Мінск—Магілёў. Прыкметы: на выгляд 25—27 гадоў, рост 170 см, хударлявага целаскладу, валасы да плячэй. Каму вядомае знаходжанне зніклай, тэлефануйце на: (017) 340-53-50, (017) 340-29-49.

# Найлепшыя здымкі года

У чарговым конкурсе «Прэс-фота» Беларусі пераможцам стаў Вячаслаў Цуранаў.

Ён зняў асуджаных на пажыццёвае зняволенне ў беларускіх турмах. Фоты выклікалі неадназначную рэакцыю ў інтэрнэце. Былы палітвязень Зміцер Бандарэнка назваў Цуранава саўдзельнікам катавання вязняў. Пераможнае фота «Наша Ніва» друкавала ў папярэднім нумары газеты. Цяпер прапануем убачыць іншыя здымкі, якія выйгралі сёлетняе «Прэс-фота» ў розных намінацыях.



Арлан-белахвост жывіцца ў полі ля Чэрвеня. Арлан-белахвост — самая вялікая драпежная птушка ў Беларусі, яна ўключаная ў Чырвоную кнігу краіны. Гэты здымак Наталлі Аблажэй перамог у намінацыі «Прырода».



Сяргей Каваленка пасля працяглай галадоўкі ў клетцы. Яго вінавацілі ў парушэнні правілаў адбывання папярэдняга пакарання, прызначанага за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на навагоднім яліне ў Віцебску. Фота Сяргея Серабра.



На апошнім званку ў Шчучыне ў кадр Аляксея Бібікава патрапілі маці з дачкой.



У намінацыі «Навіны» найлепшым быў прызнаны здымак фотакарэспандэнта «НН» Сяргея Гудзіліна. На ім журналісты Ірына Козлік (злева) і Юлія Дарашкевіч чакаюць суда ў машыне міліцыі. Іх аштрафавалі на $360 кожную за «пікетаванне шляхам фатаграфавання» з плюшавым мядзведзем.



Астраном Віктар Малышчыц здымае неверагодна прыгожыя краявіды начной Беларусі. На фота: стары касцёл у вёсцы Багушэвічы, Бярэзінскі раён.



Беларусы сімвалічна ачышчаюцца ад грахоў і немачаў праз купанне ў ледзяной вадзе падчас святкавання праваслаўнага Вадохрышча на Лысай Гары пад Мінскам. Фота з серыі Аляксея Сталярова.



Фатограф Аляксандр Васьковіч падрыхтаваў рэпартаж пра жыццё выпускніка Віцебскай ветэрынарнай акадэміі, якога накіравалі па размеркаванні ў вёску Аброва, за 500 км ад дому. На фота: ацёл.

**Гісторыя кахання** сталічнай доктаркі і знанага археолага.

# «Калі выбіраць паміж каханай і Беларуссю, выберу Радзіму»



**Апошняе фота Святланы і Міхася Чарняўскіх разам, восень 2012.**

**Міхась Чарняўскі**

7.03.1938—20.01.2013. Гісторык, археолаг. Нарадзіўся ў вёсцы Круці Мядзельскага раёна. Вучыўся ў Мінску. Быў удзельнікам Акадэмічнага асяродка беларускай інтэлігенцыі, разгромленага ў 1973—1974. У 1988—1989 быў сярод стваральнікаў БНФ, адраджаў сацыял-дэмакратыю.

Як навуковец вывучаў нёманскую археалагічную культуру, даследаваў крэмневыя шахты, помнікі каменнага і бронзавага веку. Пісаў папулярныя кнігі па гісторыі Беларусі: «Страла Расамахі», «Вогнепаклоннікі», «Правадыр крылатых вершнікаў». Вярнуў забытае імя аднаго з удзельнікаў пасляваеннага антысавецкага супраціву Расціслава Лапіцкага.

Пахаваны ў Круцях. У яго засталіся дачка Алеся, сын Максім, трое ўнукаў.

Некалі ён хацеў, каб жонка стала яго сакратаром. Але жанчына сваё пакліканне бачыла ў лекаванні дзяцей. Яна і сёння працуе педыятрам. Але да апошняга заставалася першым чытачом і дарадцам мужа.

Пра жыццё Міхася Чарняўскага па-за навукай расказала яго ўдава, спадарыня Святлана.

**Святлана Чарняўская:** Я мінчанка ў першым калене. Бацька быў партыйным работнікам з-пад Бабруйска, мама — настаўніцай з-пад Чавусаў. Калі я вучылася на другім курсе медінстытута, а брат хадзіў у восьмы клас, памёр тата. А праз тры месяцы не стала мамы. Мы засталіся ўдваіх у вялікай кватэры. І суседка ўгаварыла ўзяць кватаранткай дзяўчынку з пединстытута, Люду.

Яна першай пазнаёмілася з Мішам, і яны сустракаліся. Пасля вучобы Люда з'ехала ў Баранавічы, а Міша працягваў тэлефанаваць мне. Аказалася, што мяне ўпадабаў, хаця я кахала іншага. І неяк позна патэлефанаваў стомлены, расказваў, што рыхтуе экспанаты для музея. Мне так шкада стала яго, што хутчэй са спачування сказала: «Хаця б адным вокам паглядзець на тыя знаходкі». Так усё і вырашылася...

Да вяселля мы сустракаліся толькі тры месяцы. Праўда, калі ён прыходзіў на спатканні, казаў, што не збіраецца жаніцца. А ён быў «стары» — амаль 30 гадоў, а мне 22.

## Я на раскопкі з ім нават як у шлюбнае падарожжа паехала — у Асавец »

**«Наша Ніва»: Як ён заляцаўся? На танцы запрашаў?**

**СЧ:** Не было часу на танцы. Ды ён і танцаваў слаба, а я ўвогуле іх не люблю. Ён прыходзіў да мяне і мы размаўлялі, цалаваліся... Ну і пастаянна ж хадзілі на беларускія імпрэзы, канцэрты.

**«НН»: Чаму ён не хацеў жаніцца?**

**СЧ:** Ён быў шчырым — шукаў каханне. І да мяне не сустрэў той, з кім мог бы ажаніцца.

Мяне на пятым курсе збіраліся адправіць на практыку ў Добруш. Міша спалохаўся, што магу там застацца альбо вярнуся не адна. І прапанаваў хутчэй распісацца. Мы прыехалі ў ЗАГС, каб выбраць дату, а загадчыца нам кажа: «Ведаеце, у мяне хвілінка ёсць, давайце зараз і распішу». Спачатку Міша не мог напісаць заяву — рука дрыжэла. А пасля я ад хвалявання не магла пісаць. На сёлетні Дзень касманаўтыкі было б 45 гадоў, як мы разам.

**«НН»: Сапраўднага вяселля не было?**

**СЧ:** Мішавы бацькі зрабілі вяселле пасля маёй сесіі, у чэрвені. Гэта было ў вёсцы Мікасецк на Мядзельшчыне. Цэлы аўтобус супрацоўнікаў з Акадэміі навук прыехаў, а з майго боку былі толькі брат і цётка.

Свёкар дастаў дзве скрыні «Бакштанкі» — вядомай самагонкі, але пасаромеўся выстаўляць на стол. А раніцай нехта знайшоў яе і адразу ўсе наляцелі: «Навошта вы нам тую манапольку (крамную) ставілі, калі такое дабро ёсць?»

### «Пазваніў і расплакаўся...»

**«НН»: Калі пазнаёміліся, было бачна, што ён такі шчыры беларус?**

**СЧ:** Не тое слова. Ён, калі прапанаваў ажаніцца, сказаў: «Я цябе моцна кахаю, але Беларусь заўсёды перад усім. І калі трэба будзе выбраць паміж вамі, я выберу Беларусь». А пасля, у 1995, ён мяне на выбары ў Мінскі гарсавет 22 склікання адправіў. Я не хацела, але ён сказаў: «Так трэба для Беларусі». І я прайшла. Тады яшчэ маглі апазіцыянеры трапіць, але ішла як беспартыйная. Я загадвала аддзяленнем прамянёвай дыягностыкі 10-й дзіцячай паліклінікі.

Я не размаўляла па-беларуску. І Міша саромеўся гэтага. Мы паехалі на раскопкі ў Ваўкавыскі раён і вырашылі заехаць да Ларысы Геніюш: жыла недалёка. Але ён папрасіў, каб толькі па-руску чаго не сказала. Ларыса Антонаўна нешта запыталася, а я адказала: «Да». «Не да, а так», — лагодна паправіла. Мне стала страшна і сорамна, што нічога не запомніла з той сустрэчы — была бы ў тумане. Але я вывучыла беларускую мову.

**«НН»: Геніюш і рукапіс «Споведзі» аддала Міхасю Міхайлавічу на захаванне. Дзе была схованка?**

**СЧ:** Калі яна аддала рукапіс, Міша засунуў яго пад кашулю. За яе домам сачылі, але адна сценка не праглядалася з вуліцы. І ён уздоўж гэтай сцяны выйшаў на абходную дарогу. Прыехаў увесь усхваляваны, аддаў мне папку. А дзе схованка найлепшая? Пад бялізнай у шафе, куды злодзеі адразу лезуць. І калі натыркалася на тую папку, проста пот халодны выступаў.

**«НН»: Помніце, калі пачаўся пераслед мужа?**

**СЧ:** Гэта быў 1974 год. Міша прыйшоў расстроены, нават шакаваны. «Сказалі, што кніжкі выходзяць, а мяне здымаюць з аўтарства». А пасля быў нейкі вялікі сход у Акадэміі навук. Ён патэлефанаваў: «Мяне звольнілі». І расплакаўся, бо без навукі не ўяўляў сваё жыццё. Я толькі двойчы бачыла яго слёзы — другі раз, калі хаваў маму.

**«НН»: Тлумачыў, за што з ім так?**

**СЧ:** Я ведала пра дапамогу звольненым украінскім нацыяналістам, якую яны збіралі і адвозілі. І што кніжку прывёз забароненую, якую выдалі ў Англіі. Яны ж самі адчувалі, што робяць недазволенае, што за імі сочаць.



**Сям'я Чарняўскіх: Святлана, Алеся, Максім, Міхась. 1980-я.**

## Два тыдні адплакала — рыхтавалася, што ён будзе дома паміраць »

**«НН»: Доўга ён быў без працы?**

**СЧ:** Яго паабяцалі аднавіць у Акадэміі навук, калі папрацуе на заводзе — дакажа, што «нармальны чалавек». Ён хадзіў на МАЗ, МТЗ, і яго з задавальненнем гатовыя былі ўзяць. А як толькі бачылі працоўную кніжку, адразу адмаўлялі: кім узяць кандыдата гістарычных навук?

Сябры ўладкавалі яго ў вытворча-мастацкі камбінат. Ён наносіў ляўкас (грунт) на фанерныя шчыты перад тым, як мастак маляваў на іх агітплакаты. Міша стамляўся моцна, і на яго гэта страшэнна ціснула маральна. Так адпрацаваў больш за год. А пасля яго аднавілі ў акадэміі.

### «У палатках я наспалася»

**«НН»: Раскопкі займалі шмат часу. Не крыўдавалі, што мужа часта не было дома?**

**СЧ:** Я ж ведала, за каго замуж выходзіла. Прывыкла, хоць і цяжка было адной з дзецьмі. Я на раскопкі з ім нават як у шлюбнае падарожжа паехала — у Асавец. І адразу знайшла проста пад нагамі ўпрыгожванне з косткі. Яго фотаздымак пасля ва ўсіх падручніках друкаваўся. Пакуль была маладая, хаця б на некалькі дзён з ім выязджала на раскопкі. Таму ў палатках я наспалася.

**«НН»: Адпачываць Міхась Міхайлавіч умеў?**

**СЧ:** Канечне, ён быў звычайным чалавекам. Любіў паглядзець тэлевізар. Тэлеканал «Еўраньюс» — абавязкова. Глядзеў фільмы, якія атрымлівалі «Оскар». А захапленнем быў бокс: заўжды сачыў за паядынкамі. Відаць, праз тое, што сам не мог займацца боксам.

Ён любіў выязджаць за горад, але няўрымслівы быў. Калі нават на мора паехалі, я загарала, а ён усе ваколіцы абышоў, абследаваў. У вёсцы адпачывалі. Але ж летам Міша праводзіў раскопкі, таму выбіраліся ненадоўга.

### Сяброўства пакаленнямі

**СЧ:** Ён быў кампанейскім. Самым блізкім сябрам быў народны мастак Васіль Шаранговіч. Прычым спачатку сябравалі іх бацькі — служылі разам у войску Пілсудскага. Пасля яны. Цяпер і нашы дзеці сябруюць.

Калі Мішу выгналі з Акадэміі навук, я пазваніла Васілю. І ён адразу прыехаў, хаця рызыкаваў кар'ерай. Яны прагаварылі ўсю ноч.

**«НН»: Яны разам у школе займаліся маляваннем, але ў прафесіях разышліся.**

**СЧ:** Міхась хораша маляваў. Але з настаўнікам не паразумеўся. Міша і Васіль былі розныя па характары. І Васіль з настаўнікам душа ў душу трапілі, а Міша — не. Ён увесь час казаў, што толькі праз настаўніка не пайшоў вучыцца на мастака.

Але маляваў заўжды. І ў «ЛіМе» друкалівася яго малюнкі. А для мамы чацвёртакласнікам намаляваў ікону. Некалькі гадоў таму з дома ў вёсцы яе скралі. Амаль нічога не ўзялі, а гэтую выгаралую ікону забралі.

**«НН»: Тры гады таму Вы даведаліся пра хваробу мужа. Як Міхась Міхайлавіч гэты час жыў?**

**СЧ:** Пасля першай аперацыі дактары паставілі яму дыягназ: рак. Мы Мішу нічога не сказалі. Я два тыдні адплакала — рыхтавалася, што ён будзе дома паміраць. Але ў іншай бальніцы вызначылі, што пухліна не злаякасная. Памыліліся, але мы пра гэта даведаліся толькі мінулай восенню, пасля новай аперацыі. Але Міша зразумеў, што кепскае нешта адбываецца. Казаў, што баіцца страціць любую хвіліну. Ён спаў у суткі гадзін па пяць — усё працаваў. Адзін з вялікіх яго праектаў, якія рыхтаваў разам з Уладзімірам Крукоўскім і Змітром Санько, — «Тысяча Пагоняў», альбом з выявамі герба ад старажытнасці да нашых дзён. Міша збіраў Пагоні з усяго свету. І набралася іх нават 1100—1200. Альбом яшчэ не выдалі.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

Апавяданне-загадка.
Піша **Віктар Шукеловіч**.

# Спрытная кабетка

«Спрытная кабетка гэтая Яніна», — часта казалі пра настаўніцу беларускай мовы ў нашай вёсцы. Хоць ёй і стукнула пад саракоўку, але выглядала яна, даводзілі знаўцы, «як шаснаццатка»: зграбная, з точанай таліяй ды доўгаю касою. Са спіны дык і не пазнаў бы, што гэта ўжо далёка не маладуха.

У Яніны быў добры муж, рахманы ды працавіты аграном Стась — мужчына вялікага росту і шырокай косці. Яны жылі заможна, але і не былі ламакамі — хадзілі і на працу, і гаспадарку мелі, а Стась дык яшчэ вечарамі машыны правіў за грошы. Скупаваты, можа, быў мужык, але затое не піў і ўсё цягнуў у хату. Адна была ў іх бяда — не было дзяцей. Яшчэ не старыя яны, спадзяваліся, што сплодзяць нашчадкаў, але надзеі тыя штораз слаблі. Гады міналі за гадамі, а чаканага прыбаўлення так і не было.

«Пракляў нехта іх альбо сурочыў, пазайздросціўшы багаццю», — тлумачыла іх суседка Мозарыха. Яніна не верыла ў забабоны ды ездзіла, казалі, у Мінск па дактарах лячыцца ад бясплоднасці, але дарэмна. Разам са Стасем, каб хоць неяк адвесці душу, яна кінулася ў работу, запусціўшы вялікую гаспадарку. Мелі дзвюх кароў, свіней, авечак, гусей, качак, індыкоў. Насадзілі ля хаты плантацыю клубніцаў, вішнёвы сад ды заняліся гандлем садавіною. Нешта везлі ў Мінск, а частку адпраўлялі на Расею. Зараблялі. Дык а што з тых грошай, калі не было каму пакінуць заробленага? Відаць, зразумеўшы гэта, Яніна пачала з часам астываць да працы. На сенаванне, праполку буракоў, капанне бульбы не ляцела ўжо першая — наймалі некага з вёскі.

Пляткарылі, што з роспачы па сваіх ненароджаных дзецях Яніна пачала падгульваць. Пакуль Стась быў на пасяўной ці ўборачнай, да Яніны заходжваў малады старшыня калгаса — вусаты бландзін з задзірыстай усмешкай. Суседка Мозарыха нібы бачыла, як той некалькі разоў ставіў свой рабочы «Газік» пры ляску за вёскай, а потым з паўкіламетра пешкі шкандыбаў да Яніны. Настаўніца сама выходзіла ў лес на доўгія шпацыры, што таксама многія палічылі падазроным. Казалі, што ў тым лесе яе звычайна чакаў белабрысы кіраўнік калгаса. Старшыня, аднак, дзіцяці Яніне не зрабіў.

У школе Яніна муштравала дзяцей творчасцю беларускіх пісьменнікаў.

— Толік, раскажы, калі ласка, што ты ведаеш пра жыццё нашага славутага песняра Купалы, — звярнулася яна была да цыбатага сына галоўнага інжынера калгаса.

У адказ пачула маўчанне. Вучань-старшакласнік нават вухам не павёў, разглядваючы пакінуты кімсьці надпіс на парце.



**Віктар Шукеловіч**

Нарадзіўся ў 1982 у Жупранах (Ашмянскі раён). Скончыў беларускі філфак БДУ (2004), тэалагічны факультэт Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта (2011).

— Толік, у каго я пытаюся? Устань, калі з табой настаўніца размаўляе, — павысіла яна голас.

Вочы ўсіх вучняў былі звернутыя цяпер на Толіка. Ён ляніва ўстаў, утаропіў позірк у столь і, прыцмокнуўшы языком, выдаў:

— Нічога я не знаю пра гэнага калхозніка...

— Толік, як у цябе язык паварочваецца так казаць? — нервова загаварыла настаўніца, голас якой рваўся на канцах слоў. — Гэта ж ніякі не калгаснік, а волат нашай культуры, класік, геній, пакутнік... — тут Яніна спынілася, пабачыўшы, што Толік калупаецца пальцам у вуху.

## Адна была ў іх бяда — не было дзяцей »

Нахабства Толіка вельмі ўразіла Яніну. Яшчэ доўга яна не магла забыцца пра інцыдэнт на ўроку, але яна яшчэ больш упэўнілася ў вартасці сваёй справы, усвядоміўшы сябе «рыцаркай беларушчыны ў часы бескаралеўя, калі мужчыны-воіны пагінулі падчас духоўнага змагання». Калі раней Яніна ў горадзе ці з настаўнікамі адзывалася і па-руску, то цяпер пачала размаўляць выключна па-беларуску.

— Разумееце, прыслалі да нас новую выкладчыцу рускай мовы, адразу пасля педуніверсітэта, — тлумачыла Яніна праз плот суседцы Мозарысе. — Дык яна да мяне падышла неяк у настаўніцкай і па-руску чэша на паказ перад рэштай настаўнікаў, маўляў, «разговарівайце нармальна, ваші выраженія усложняют камунікацію». Мне і дух заняло. А я ёй усё роўна па-беларуску ў адказ: «Не дай Бог свінні рог, а ахлудзе панства».

— І правільна сказалі, Паўлаўна. Хай ведае смаркачка... Во дзе маладзёж пайшла, каб яе ліха, — падтрымала Мозарыха суседку.

— Альбо яшчэ быў выпадак, — цягнула далей Яніна. — Павезла я дзяцей з дырэктаркай у тэатр у Мінск. Там ставілі «Паўлінку», то дырэктарка надта ж здзіўленая была, што п’еса па-беларуску, і ўвесь спектакль крывілася, што нешта ёй не пасуе. Уяўляеце, гэта ж адукаваная асоба, хай сабе і матэматыку выкладае, але як можна элементарнага не ведаць і даваць такі адмоўны прыклад стаўлення да роднай мовы?

— Так, ваша праўда, вучаная баба, а такое змарозіла, — Мозарыха згодна ківала галавою, але, каб размаўляла з кім іншым, ахвотна б пакруціла пальцам ля скроні.

«Прыдурнела Яніна ад бяздзетнасці. У галаве ёй пакруціўшыся. Занадта беларускай зрабілася», — расказвала яна потым на выгане, чакаючы карову з пашы.

Неяк, ужо па поцемках ідучы з дзяжурства на школьнай дыскатэцы, Яніна заўважыла, што яе дагнала ватажка ейных вучняў. Не зважаючы на забарону, яны былі добра падхмеленымі ды на ўсю вёску, будзячы сабак, гарлапанілі рускую папсу.

— Яніна Паўлаўна, беўаруская моўа — вэлмі прыгошая, — прамовіўшы знарок з нейкім замежна-англійскім акцэнтам, зачапіў настаўніцу цыбаты Толік.

Двоечніца Светка ў ружовай блузцы, на плячах якой ляжала Толікава рука, захіхікала. Настаўніцы зрабілася прыкра.

— Неяк хутка ты паразумнеў, Анатоль Бацькавіч, — адказала жанчына ды неяк ужо няўпэўнена пакрочыла далей.

— Божа, абы бутэльку якую ў галаву не кінулі, — шаптала яна пад носам.

«Касіў Ясь канюшыну, паглядаў на Яніну. А Яніна ў жыцце ср@ла ды на Яся паглядала», — заспяваў ёй нехта з вучняў услед. Настаўніца адчула, што спужалася, што сэрца затахкала, а дыханне зрабілася часцейшым, аднак, сабраўшы волю ў жменю, зрабіла выгляд, што не



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

пачула, інстынктыўна сышоўшы з дарогі, прыцісну́ўшыся бліжэй да плота. «Варвары», — круцілася ў галаве.

Улетку Яніна часта сядзела з томікам вершаў Янкі Купалы на ганку. З кнігай яна выходзіла ў лес ці на поплаў ля ракі. Сядзела на беразе, бывала, адклаўшы ўбок чытанне, глядзела некуды ўдалеч ды ў руках перабірала нейкія каменьчыкі. З гэтага, відаць, і пачалася ўся авантура. Гарачыня, самыя сенакосы, людзі ўсе ў поце з косамі ды граблямі, палохаюцца кожнай хмары, якая б магла змачыць сена, а Яніна — з кніжкай ля ракі. Настаўніцы няшчадна мылі косткі гэтым летам, а найбольш шчыравала Мозарыха: «Людцы, гляньце, мужык за работай ні дня, ні ночы не бачыць, а гэтая лафірында толькі кніжачкі пачытвае».

## Адчыніў дзверы і жахнуўся — падвешаным да бэлькі вісела цела »

Праз пэўны час вяскоўцы яшчэ больш захваляваліся, даведаўшыся, што Яніна пачала калекцыянаваць камяні і нават выдзеліла для свайго «хобі» спецыяльны пакой.

— Нашто старой бабе такія цацкі? — казала ў краме Мозарыха, чакаючы завоз свежага хлеба. — Гэта ж не жартачкі — змарнаваць у хаце цэлы пакой на каменне. Ці тое хто бачыў ці чуў? Зусім здзяцінела кабета. Трэ’ было б яе да доктара звазіць...

Яніна не звяртала ўвагі на агаворы ды працягвала зносіць у спецыяльна адведзены пакой невялікія каменьчыкі цікавага колеру ці формы. Былі там квадратныя, ромбы, як гузікі, бліскучыя, зялёныя, блакітныя, чырвоныя, у крапінкі, з зігзагамі, у паскі ды гарохі і г.д. Прачуўшы пра новы занятак настаўніцы, дапамагаць ёй пачалі некаторыя вучні, дорачы незвычайныя камяні, што знайшлі недзе выпадкова. Большыя ды брыдчэйшыя камянюкі жанчына скідвала ў кучу ля хлява. «Пойдуць на падмуроўку пад новую паветку». З часам вяскоўцы пачалі менш дзівіцца занятку Яніны. «Нечым жа мусіць заняцца, шалее без дзяцей», — казалі пра настаўніцу суседзі з Мозарыхай на чале. Стась таксама, здавалася, разумеў, што жонка шукае адтуліны, каб забыцца ці рэалізаваць сябе, і не пярэчыў ёй ні ў чым, дбаючы пра яе душэўны спакой.

Зноў распачаўся навучальны год. Яніна крыху адышла ад сваіх камянёў, зноў захапіўшыся чытаннем. Адным восеньскім вечарам яна глядзела разам са Стасем тэлевізар. Прытулілілася да мужа, паглядзела яму ў вочы ды прыняла пасму валасоў з яго ілба. Стась усміхнуўся, гэткая нечаканая ласка жонкі была прыемнай. Праз гадзінку ён пайшоў спаць. «Ідзі, ідзі, дабранач. Я зараз прыйду, толькі фільм дагляджу», — Яніна засталася на канапе ў пакоі.

Прачнуўшыся на світанні і не знайшоўшы жонкі ў ложку каля сябе, Стась пачуў, што тэлевізар усё яшчэ ціха бубніць у пакоі. «Заснула перад тэлевізарам», — падумаў ён. На змятай канапе ў пакоі Яніны не было. «Можа, доіць кароў». Стась пайшоў у хлеў, у якім не было святла. Адчыніў дзверы і жахнуўся — падвешаным да бэлькі вісела цела. Стась, ачомаўшыся ад першага шоку, падышоў бліжэй, глянуў яшчэ раз і задрыжаў: пятлю на шыі няшчасніцы зацiснуў мяшок з камянямі, сабранымі Янінай у крушню пад хлявом. Жанчына перад смерцю накідала камянёў у белы мяшок з-пад салетры, прывязала да яго адзін канец вяроўкі, а другі канец вяроўкі, з пятлёю, — яна перакінула праз бэльку. Мяшок з камянямі стаўся процівагай для цела жанчыны. Калі Стась падышоў яшчэ бліжэй, не паверыў сваім вачам: у сукенцы, падобнай да хатняй вопраткі Яніны, у пятлі боўталася зусім не яна. Гэта была Мозарыха.

Стась адным рухам абрэзаў вяроўку нажом для буракоў, што ляжаў у куце, але пасінелая суседка ўжо не дыхала. Мужчына выклікаў участковага і хуткую, не перастаючы думаць пра Яніну. «Забіла, а потым збегла, — Стась, аднак, чамусьці не асуджаў жонку. — Напакутавалася яна досыць, больш не сцярпела яе балесная душа».

Экспертыза паказала потым, што на целе «грамадзянкі Мозар адсутнічаюць прыкметы супраціўлення і гвалту». Паводле следчых, гэта яна сама, прыйшоўшы сярод ночы ў хлеў суседзяў, там павесілася. «Помсціла нам Мозарыха, ці што? Дзе ж тады дзелася Яніна?» — не знаходзіў спакою ад думак Стась. З Мінска выклікалі нават вадалазаў, што шукалі цела настаўніцы ў рэчцы, прачэсвалі таксама лясы, паразвешвалі яе фатаграфіі на слупах — нічога, правалілася як скрозь зямлю.

«Бедны Стась, вар’ятка ўсё жыццё атруціла. Што цяпер рабіць будзе?» — гадалі ў вёсцы маладыя ўдовы. Стась жа пасля гэтага здарэння таксама нібы перамяніўся. Думалі, што зап’е з гора, а ён толькі перастаў глядзець тэлевізар і цэлымі вечарамі праседжваў з кнігай Янкі Купалы ў руцэ.

*Жупраны*

## Фэст марозіва і ласункаў

**29 чэрвеня ў гарналыжным цэнтры «Сонечная даліна» (Казінца, 81) пройдзе свята «Фэст марозіва і ласункаў».** Апроч ласункаў, можна будзе паслухаць музыку і паўдзельнічаць у конкурсах.



**Уваход вольны.**

### ФУТБОЛ

#### Тур 15

**Працягваецца Чэмпіянат Беларусі па футболе.**

**29 чэрвеня згуляюць:**
«Гомель» — «Дынама» (Брэст);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Дынама» (Мінск).

**30 чэрвеня:**
«Дняпро» (Магілёў) — «Славія» (Мазыр);
«Мінск» — «Белшына» (Бабруйск);
БАТЭ (Барысаў) — «Нёман» (Гродна).

### ІМПРЭЗЫ

#### Мост

**2 і 3 ліпеня на аэрадроме «Баравая»** адбудзецца фестываль «Мост». Возьмуць удзел «Петля пристрастия», «J:морс», Hurts, The Toobes, Lumen, Biplan, Yellow Brick Road, Akute, Земфира, Louna, «Слот», Bullet for My Valentine, «Дай Дарогу!».

#### Свята сям'і

**Парафія св. Юды Тадэвуша, апостала ў Лучаі (Віцебская дыяцэзія, Пастаўскі дэканат)** запрашае сужонкаў і таксама кожнага жадаючага прыехаць на свята сям'і, якое будзе праводзіцца **30 чэрвеня, пачатак а 16-й.** На гэтую сустрэчу асабліва запрашаем сужонкаў, якія ў гэтам годзе адзначаюць свой юбілей сужэнскага жыцця ці нейкую круглую гадавіну свайго шлюбу.

#### Тэатр Уршулі Радзівіл

**28—30 чэрвеня ў Нясвіжы пройдзе арт-фэст «Тэатр Уршулі Радзівіл».**

**28 чэрвеня ў тэатральнай зале ў замку Радзівілаў а 16-й** — інтэрактыўны батлеечны спектакль «Міракль аб Уршулі». **У замкавым двары ў 21.30** — спектакль «Яблычны пірог».

**29 чэрвеня у тэатральнай зале а 16-й** — камедыя дэль артэ «Панталоне з Вероны». **У замкавым двары ў 21.30** — харэаграфічная кампазіцыя на гістарычную тэму «Песня пра Зубра».

**30 чэрвеня ў тэатральнай зале а 16-й** — музычны спектакль «Вандраванне Радзівіла «Сіроткі» ў Італію». **У замкавым двары ў 21.30** — спектакль «Пане Каханку». **Перад пачаткам вячэрніх спектакляў з 18.30** вас чакае «Горад Майстроў і Рамёстваў».

#### Пікнік.by

**29 чэрвеня на хутары Шаблі пад Валожынам а 14-й** пачнецца фестываль пад адкрытым небам Пікнік.by. Сярод выступоўцаў — Akute, «Серебряная Свадьба», «Разбітае Сэрца Пацана», Паліна Рэспубліка ды іншыя. У праграме бадмінтон, фрысбі, настольныя гульні, бодзі-арт ды іншыя забаўкі.

### КАНЦЭРТЫ

#### Джазавыя суботы

**29 чэрвеня а 19-й на плошчы Свабоды** пройдзе музычны праект «Джазавыя суботы ля Ратушы». Вас чакаюць Jaak Lutsoja group (Эстонія), дуэт Kekko Fornarelli і Roberto Cherillo (Італія) і трыа Канстанціна Гарачага (Беларусь).

#### Мая сакральная геаграфія

**16 ліпеня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт Рамана Абрамчука «Мая сакральная геаграфія», дзе песня пра містычны Абрыкос з'яўляецца галоўнай. Возьмуць удзел Віктар Сямашка (кларнет), Раман Яраш (спевы і медытацыя), Ігар Адасік (перкусія), Антон Рудак (гангставершы)…

### ВЫСТАВЫ

#### Люмін

**Да 13 ліпеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава флуарэсцэнтнага дызайну і графікі Лісіцынай Кацярыны і Філіпавай Алесі «Люмін». Дзякуючы флуарэсцэнтнаму асвятленню, мы трапляем у казачную атмасферу, якая не ўласцівая нам у штодзённым жыцці.

#### Космас

**Да 29 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава твораў Івана Міско «Космас». На выставе «Космас» прадстаўлена больш за 40 твораў аўтара — скульптура, графіка, фота. Экспануюцца мадэлі помнікаў, якія ўвекавечылі герояў касмічных палётаў. Акрамя расійскіх і беларускіх, Івану Міско пазіравалі касманаўты Польшчы, Францыі, Германіі, Балгарыі, Вялікабрытаніі, Аўстрыі, Японіі.

#### Basis: пачатак

**Да сярэдзіны ліпеня ў мастацкай галерэі Цэнтра народнай творчасці (Гікалы, 4, памяшканне бібліятэкі імя А.С. Пушкіна)** працуе выстава твораў Паўлы Кароткай «Basis: Пачатак». У экспазіцыі прадстаўлены жывапісныя палотны, графіка, творы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Як піша сама мастачка, асноўны накірунак яе творчасці — свет фантазій, перажыванняў і пачуццяў.




#### Стасіс Красаўскас

**Да 25 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава графічных твораў народнага мастака Літвы Стасіса Красаўскаса. Красаўскас працаваў у розных тэхніках (ксілаграфія, літаграфія, лінагравюра, афорт) і ствараў станкавыя гравюры, а таксама шматлікія ілюстрацыі да літаратурных твораў. Лепшым яго працам уласцівыя лаканізм і экспрэсія белых ліній на чорным фоне.

# Спадчына стагоддзяў-2013

**Ад 28 да 30 чэрвеня ў Замкавым комплексе «Мір»** пройдзе III Міжнародны гістарычны фестываль «Спадчына стагоддзяў». Тут адбудзецца рыцарскі турнір, а таксама можна будзе азнаёміцца з матэрыяльнай культурай Заходняй Еўропы і Вялікага Княства Літоўскага XIV—XV стагоддзяў.



### ТЭАТР

#### 26 чэрвеня
**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»

#### 27 чэрвеня
**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Жызэль»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

#### 28 чэрвеня
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»

#### 29 чэрвеня
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

#### 30 чэрвеня
**Лялек** — «Вясёлы цырк»

#### 1 ліпеня
**Беларускай драматургіі** — «Тры жызэлі»

#### 2 ліпеня
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

#### 4 ліпеня
**Беларускай драматургіі** — «Расківанае гняздо»

#### 8 ліпеня
**Беларускай драматургіі** — «Купала. Кругі раю»

#### 10 ліпеня
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

#### 11 ліпеня
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

#### 12 ліпеня
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### КІНО

#### «Чалавек са сталі»

**Жанр:** баявік, прыгоды, фантастыка
**Рэжысёр:** Зак Снайдэр
**Акцёры:** Расэл Кроу, Эмі Адамс, Лорэнс Фішбэрн, Генры Кавіл, Майкл Шэнан
ЗША, 2013, 143 хв.

Кларк Кент — малады журналіст, які адчувае сябе чужынцам з-за сваёй неверагоднай сілы. Шмат гадоў таму ён быў адпраўлены на Зямлю з развітай планеты Крыптон і цяпер задаецца пытаннем: навошта?

Выхаваны прыёмнымі бацькамі Мартай і Джонатанам, Кларк ведае: валодаць звышздольнасцямі — значыць прымаць складаныя рашэнні. Але калі чалавецтва больш за ўсё мае патрэбу ў стабільнасці, яно падвяргаецца нападу. Ці зможа герой аднавіць свет ці скарыстаецца сваёй сілай для таго, каб канчаткова яго разбурыць? Кларк павінен стаць супергероем, вядомым як «Супермэн», каб усяляць надзею ў сэрцы людзей і абараняць тых, каго ён любіць.



# Нікас Сафронаў: «Лукашэнка збіраўся асабіста адкрыць маю выставу»

**Скандальны мастак** расказаў гісторыю стварэння партрэта кіраўніка Беларусі.



Пабачыўшы ў Брэсце карціну «Аляксандр Лукашэнка ў касцюме часоў Францішка Скарыны» Нікаса Сафронава, наведвальнікі лезлі ў кішэню па мабільнікі, каб сфатаграфаваць нечаканы твор. У той жа дзень старшыня аблвыканкама Канстанцін Сумар асабіста адвёз карціну, якую мастак падарыў Лукашэнку, у Мінск.

«Наша Ніва» паразмаўляла з Сафронавым пра партрэты палітычных дзеячаў і паралелі паміж Францішкам Скарынам і Аляксандрам Лукашэнкам.

**«Наша Ніва»: Вы шмат працавалі з палітычным партрэтам, якія асаблівасці мае гэты жанр?**

**Нікас Сафронаў:** Палітычнага партрэта як жанру не існуе. Калі казаць пра партрэт палітычнага дзеяча, ён можа быць прадстаўлены ў геаічным вобразе, як, напрыклад, Напалеон на перавале Сан-Бернар пэндзля Давіда. Ёсць і гістарычны партрэт, на якім прадстаўленыя значныя палітычныя дзеячы, напрыклад, Франка або Піначэт, таксама існуе парадны афіцыйны партрэт, калі прэзідэнт малюецца ў касцюме з гальштукам, на фоне сцяга і іншых атрыбутаў сваёй краіны. Мастакі імкнуцца найбольш выгадна паказаць яго вобраз, падкрэсліваюць значнасць і статус, паказваюць яго як гістарычнага дзеяча.

**«НН»: Як Вы абіраеце сваіх персанажаў?**

**НС:** У першую чаргу гэта фінансавы інтарэс. Але гэта не галоўнае. Я таксама пішу і тых людзей, да якіх проста адчуваю павагу, незалежна ад іх пасады. Мяне прыцягваюць яркія асобы, якія дасягнулі поспеху і прызнання ў сваёй прафесіі. Хтосьці аднойчы сказаў: «Нікому не цікавы той, хто шукае мільён, але ўсім цікавы той, хто яго знайшоў». Таксама як і іншым, мне цікавыя тыя людзі, якія «знайшлі свой мільён», якія прымусілі казаць пра сябе, няхай гэта будзе Фідэль Кастра ці былы прэзідэнт Турцыі Сулейман Дэмірэль.

**«НН»: Чаму Вы вырашылі напісаць партрэт Аляксандра Лукашэнкі?**

**НС:** Я шмат гадоў ведаю Аляксандра Рыгоравіча, і ён быў мне заўсёды цікавы, бо з'яўляецца адной з самых яркіх палітычных фігур у сучасным свеце, бясконца творчым і харызматычным кіраўніком, які заўсёды прыслухоўваецца да голасу свайго розуму і голасу народа.

**«НН»: Ведама, што ў кожнага з палітыкаў ёсць адметныя рысы, на якія мастакі звяртаюць увагу ў першую чаргу. Напрыклад, лоб у Леніна. На якія рысы Лукашэнкі звярнулі ўвагу Вы?**

**НС:** Усмешка, прастата погляду, густыя вусы, якія яму так пасуюць, незвычайны лоб, уласцівы толькі таленавітым, я б сказаў, геніяльным людзям, добразычлівасць у зносінах!

**«НН»: Вы пісалі партрэт па фатаграфіі?**

**НС:** Не. З Аляксандрам Рыгоравічам мы некалькі разоў размаўлялі, і я ўважліваназіраў за ягоным тварам і жэстамі. Хоць ён адмыслова не пазіраваў, але даўно абяцаў.

**«НН»: Ці атрымалі Вы водгук на сваю працу?**

**НС:** Так, Аляксандр Рыгоравіч перадаў праз губернатара велізарнае прывітанне і падзяку і таксама прапанаваў забяспечыць падтрымку маёй выставы ў Брэсце і ў іншых гарадах Беларусі, ён сказаў, што збіраецца асабіста адкрываць маю выставу ў Мінску, якая, спадзяюся, адбудзецца ў бліжэйшы час.



**«НН»: У адным з інтэрв'ю Вы сказалі, што Аляксандр Лукашэнка згадзіўся пазіраваць Вам для наступнага партрэта.**

**НС:** Мы шмат гадоў дамаўляемся, і Аляксандр Рыгоравіч не адмаўляецца. Ён, дарэчы, ніколі нікому не пазіраваў, але для мяне абяцаў зрабіць выключэнне. Некалькі разоў, калі мы з ім спрабавалі дамовіцца пра сустрэчу, ён паведамляў пра тое, што ў яго — пасяўная або ўборачная, і пазіраванне для партрэта пераносіцца з месяца на месяц, з года на год. Але і я таксама праз сваю занятасць асабліва не настойваю.

**Мікалай Левертаў**

**Прыдворны жывапісец**

Работы Нікаса Сафронава каштуюць дзясяткі тысяч даляраў. Ён малюе зорак эстрады, алігархаў ды чыноўнікаў у выглядзе гістарычных славутасцяў.

Летась Сафронаў трапіў у непрыемную сітуацыю. Аказалася, што мастак махлярыць: друкуе свае карціны на прынтары, а пасля наносіць на выяву фарбу. Такія штампаваныя партрэты ён прадаваў як творы мастацтва.

**Спажывец**

# Еўрапейскія сыры трапілі ў лінейку «Князь «Альгерд»

Для нашага рынку лозунг будзе беларускамоўным: «**Адчуй смак высакароднасці**».




У Беларусі з'явілася лінейка элітных сыроў «Князь «Альгерд», якую пачаў выпускаць Верхнядзвінскі масласырзавод. На этыкетцы — выява князя Альгерда, а таксама лозунг «Адчуй смак высакародства». «Наша Ніва» паразмаўляла са спецыялістам па маркетынгу завода Віктарам Крупянько:

**«Наша Ніва»: Якія гатункі сыроў трапілі ў лінейку?**

**Віктар Крупянько:** Гэта традыцыйныя еўрапейскія сыры высокай цэнавой катэгорыі. Яны і раней выпускаліся нашым заводам, кожны з іх адзначаны медалямі ў Еўропе. У лінейку ўвайшлі сыры з вялікімі дзіркамі, такія гатункі, як галандскі сыр «Гаўда», галандскі «Эменталер», швейцарскі «Маасдамер», італьянскі класічны «Пармезан», новы італьянскі «Асьяга», «Манарх», «Чорны прынц», а таксама «Старадзвінскі».

**«НН»: Па якіх крытэрыях іх аб'ядналі і дзе можна знайсці гэтыя сыры?**

**ВК:** Крытэрый — цэны. Адпускная цана на заводзе — 80 000 рублёў. 60% прадукцыі ідзе на экспарт, рэшта распаўсюджваюцца ў Беларусі. Гэтыя сыры папулярныя, напрыклад, у Расіі і Казахстане.

**«НН»: Чаму абралі назву «Альгерд»?**

**ВК:** Існуе легенда, што аднойчы князь Альгерд спыняўся ў Дрысенскім замку і яго пазнаёміў з сыраробам Янам, якога Альгерд пачаставаў еўрапейскімі сырамі і загадаў ствараць не горшыя. У наступны візіт князь атрымаў мясцовы сыр, які вельмі ўпадабаў. Адсюль і пайшла традыцыя рабіць еўрапейскія гатункі сыру ў Верхнядзвінску.

**«НН»: Чаму этыкетка «Альгерда» аформлена па-расійску?**

**ВК:** Мы разлічваем у першую чаргу на хатніх гаспадынь. Да таго ж мы не ўпэўнены, што ў перакладзе добра будзе перададзены лозунг «Почувствуй вкус благородства». Аднак зараз ідзе актыўнае абмеркаванне, і для ўнутранага рынку краіны мы зробім і беларускамоўны варыянт этыкетак.

**Юрась Ускоў**

**Для ўнутранага рынку краіны мы зробім і беларускамоўны варыянт этыкетак »**

# Беларусь на другім у свеце месцы па спажыванні гарэлкі

Наперадзе толькі **Расія**.

Беларусы займаюць другое месца ў Еўропе па колькасці зняволеных у турмах у прапорцыі да насельніцтва, другое месца ў свеце па разводах і вось — другое таксама па спажыванні гарэлкі. Пра гэта сведчаць дадзеныя рэйтынгу, складзенага на аснове звестак брытанскай кампаніі International Wine&Spirit.

Паводле даследавання, на аднаго жыхара Беларусі ў год прыпадае больш за 11 літраў гарэлкі. Першае месца ў дадзеным рэйтынгу належыць Расіі (13,9 літра), другое — Беларусі (11,3), трэцяе — Украіне (7,7), чацвёртае — Польшчы (7,0), пятае — Казахстану (5,9). Усяго ж жыхары Зямлі ў 2012 годзе выпілі 4,44 мільярда літраў гарэлкі.

Акрамя таго, земляне выпілі 1,47 мільярда літраў рому (лідар Куба — 4,9 літра на чалавека), 0,86 мільярда літраў скотчу і віскі (лідар Францыя — 1,9 літра на чалавека), 0,44 мільярда літраў джыну (лідар Філіпіны — 1,4 літра) і 0,23 мільярда літраў тэкілы (лідар Мексіка — 0,63 літра).

Цікава, што і па п'янстве, і па разводах, і па турэмнасці Беларусь дзеліць п'едэстал з Расіяй. Словы пра «рускіх са знакам якасці» ў такім кантэксце набываюць асаблівае гучанне.

**Мікола Бугай**

## Прыватныя абвесткі

**ЖЫТЛО**

**Краязнавец і журналіст здыме пакой у Лепелі Віцебскай вобласці ў ліпені** месяцы на 2—3 дні. Разгледжу любыя прапановы. Т.: (029) 776-35-57 (Аляксей).

**Мяняю 1-пакаёвую прыватызаваную кватэру ў цэнтры Віцебска** — 31 кв.м.,4 паверх пяціпавярховага дома, балкон, тэлефон, с/в асобны, добры стан — на непрыватызаваную кватэру ў Мінску без даплаты. Т.: 8-0212-25-80-79.

**ПРАДАМ**

**Прадаецца аўтамабіль Ford Escort 1996 г.в., 1.6, хэтчбэк.** У нядрэнным стане, маюцца невялікія нюансы: жучкі ўнізе кузава,стаіць запаска (патрэбен літы дыск), невялікія ўвагнутасці на лабавым шкле і маленькая расколіна ў кутку. $2500 (магчымы гандаль). Смалявічы. Т.: (025) 675-28-61.

**ПАДЗЕІ**

**12—22 ліпеня ў Латвіі пройдзе тыдзень італьянскай мовы і культуры.** Падрабязнасці на сайце http://italuvaloda.lv/ru/ альбо па тэлефоне: (029) 679-91-47 (Ірына).

Прыватныя абвесткі ў «НН»
(не больш за 15 словаў) можна
падаць бясплатна. Дасылайце
поштай (а/с 537, 220050, Мінск)
ці праз e-mail (nn@nn.by)
або размяшчайце на форуме сайта
www.nn.by. Дык скарыстайцеся!



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**З вечара пятніцы, 21 чэрвеня (22:00), і да раніцы панядзелка, 24 чэрвеня (05:00), праводзіўся капітальны рамонт праспекта Незалежнасці ў Мінску з поўным закрыццём руху на ўчастку ад вуліцы Леніна да вуліцы Энгельса. У суботу галоўны праспект выглядаў так, нібы ў Мінску абвесцілі каменданцкую гадзіну.**



REUTERS

**213 мядзведжых лап ледзь было не перасеклі расійска-кітайскую мяжу ў фургоне, якім кіраваў грамадзянін РФ. Гандаль гэтым жудасным таварам у Кітаі забаронены. Лапы выкарыстоўваюцца мясцовымі жыхарамі ў медыцыне і кулінарыі. Цяпер затрыманым расіянам пагражае смяротнае пакаранне.**



**Мінскі фатограф зладзіў пікантную фотасесію ў цэнтры Гомеля. Здымаў Аляксандр Дзмітровіч раніцай — каля пятай гадзіны.**



HORKI.INFO

**«Жыгулі» пратаранілі будынак суда ў Дрыбіне (Магілёўская вобласць). У машыне знаходзіліся дзве жанчыны. Абедзве засталіся жывыя.**

## Анекдоты і жарты

* * *

— Ходзяць чуткі, што ваш катэдж у Драздах пабудаваны на народныя грошы...

— Ну што вы, адкуль у народа такія грошы.

* * *

Чыноўнікі кажуць: «Не пусцім крымінал ва ўладу, самі дамо рады».

* * *

Сацыёлагі высветлілі, што бабулі, якія прастаялі больш за паўгадзіны ў чарзе, забываюць, навошта сюды прыйшлі, і пачынаюць сварыцца на ўладу.

* * *

Ніколі не бачыла, як плача муж. Пакуль выпадкова не адфарматавала жорсткі дыск на камп'ютары.

* * *

Пасля таго як маленькі Кастусь навучыўся лічыць, тата дзяліў пельмені пароўну.

* * *

Учора пазнаёміўся з бацькамі сваёй дзяўчыны. Прынялі як роднага сына. Бацька нават дзягай адлупцаваў!

Паважаныя чытачы,
**наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе ў сераду, 10 ліпеня.**
Прыемных вам
летніх адпачынкаў!

## «НН» сто гадоў з вамі

Не шукай ты шчасця, долі
На чужым, далёкім полі,
Гэт, за шумным лесам-борам,
За шырокім сінім морам
Не шукай ты шчасця, долі.

Ты ўсё знойдзеш гэта блізка,
Там, дзе маці над калыскай
Табе песні напявала,
Як малога калыхала,
Толькі ўмей шукаці блізка.

**Янка Купала.**

**«НН». №26—27. 1913.**

**Смерць Быкава.** Аглядаючыся назад на Быкава — на нядаўняга Быкава, які ў апошні свой дзень нараджэння, пасля двух пераліванняў крыві спаў на бараўлянскім ложку, нібы дзіця — на кулачку, які «мякка выштурхнуты» (ягоныя словы) непрыяцелямі і прыяцелямі ў самоту і роспач эміграцыі, захоўваў яснасць думак, шляхетнасць эмоцый, і на даўнейшага Быкава, цкаванага камуністамі, а пасля тымі ж камуністамі падкупленага ордэнна і ганарарна, — мы бачым вялікі этас вялікага мудраца, які зрабіўся найбольшым духоўным аўтарытэтам у Беларусі.

**«НН». №24. 2003.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8004. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 25.06.2013.
Замова №2489.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13024